Гайнаўскі фестываль ➔3



**Ніва**

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Разлічыць сістэму ➔ 9



http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 21 (2923) Год LVII | Беласток, 20 мая 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Лякарства на смутак дэмаграфіі

На мінулым тыдні я наведала дзве непублічныя пачатковыя школы: беластоцкую *праваслаўную* і вясковую школу з дваццаццю вучнямі ў Арэшкаве. Абедзве сустрэчы пацвердзілі дзіўнае і прызабытае ўжо назіранне. Вучні гэтых дзвюх навучальных установаў з даверам слухалі слоў сваіх настаўнікаў. Настаўнікі ў сваю чаргу паводзілі сябе так, быццам у жыцці не існавала ўжо нічога апрача вучняў. Усё гэта дапаўняла атмасфера зруху, даездаў, ангажаванасці і мабільнасці...



З Гайнаўкі ў Арэшкава падабрала мяне маладая настаўніца беларускай мовы Анна Франкоўская. Яе карані па жаночай ліні выводзяцца якраз з маёй роднай мясціны і гэтая акалічнасць выдатна ацпляла наш кантакт.

У дарозе, дзесьці за Парыевам, я даведалася, што сучасныя школьнікі рашаюць хатнія задачы праз камп'ютар.

— І не любяць, калі ў якасці ўзнагарод ім прапануюць кніжкі, — дадала мая субяседніца.

* * *

Перад адрамантаваным будынкам школы пасаджаны маладыя дубы. Нядаўна ў Арэшкаве адзначалі свята вясны. У госці прыехалі дзеці з белавежскага дзетдома. Разам гулялі, ладзілі спаборніцтвы, ласаваліся пачастункам. След ад мерапрыемства застаўся ў будынку школы, прыаздобленай у гірлянды з галінак бярозы і папяровыя кветкі. Настрой аптымізму і свежасці мацаваў малады і сімпатычны настаўніцкі калектыў. У час майго прыезду якраз ад'язджала ўжо дамоў настаўніца інфарматыкі.

— Пані Уршуля даязджае да нас аж з Беластока, — паяснілі ў канцылярыі. — Тры разы ў тыдзень.

— Як гэта магчыма? — апошняя справа здавалася сенсацыйнай. Бо даехаць на час на публічным транспарце з Гайнаўкі ў Арэшкава цяжэй як у Варшаву. На месцы знайшлі выхад. Настаўніцу падбіраюць у Гайнаўцы калегі па рабоце. Каб папоўніць вобраз настаўніка непублічнай школы, абавязкова трэба згадаць пра адну акалічнасць:

— Нашыя кадры працуюць на палову або чвэрць штата, — адзначае дырэктар Яраслаў Грабоўскі, сам родам з Любліншчыны. — І большасць з іх аднекуль даязджае...

Час адведзены на падарожжы ўпісаны ў мабільны стыль жыцця і адкрытасць. Настаўніца інфарматыкі выкладае яшчэ ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Сухаволі, куды таксама даязджае з Беластока.

* * *

У Арэшкава падалася я з мяшком падарункаў ад „Зоркі". Настаўніцы беларускай мовы Анна Франкоўская і неацэненая Ірэна Герасімюк дамагліся сваім аўтарытэтам немагчымага. Тут у кожнай сям'і падпісваюцца на „Ніву", прымаюць удзел у конкурсах, каментуюць асобныя допісы і публікацыі. Для працы з газетай адводзяцца асобныя ўрокі. У час сустрэчы са старэйшымі вучнямі штосьці зварухнулася ў ментальным плане. Дзеці з цікавасцю гарталі прапанаваныя ім кніжкі і з гонарам заяўлялі...

— *Proszę pani, a u mnie jest autograf autora!*

— *I u mnie jest autograf...*

Праўда, не лёгка было тут прабіцца з жывым беларускім словам, але ў рэшце рэшт перамагла засяроджанасць. Увага і сэрца, аказаныя дзецям, спрацавалі ў аўтарытэт настаўніка і яго госця. Сярод саміх вучняў панаваў таксама добры парадак. Калі да голасу даходзілі каментары хлапчукоў, іх з месца абсаджалі дзяўчаты.

Спадарыня Аня расказала сваім вучням пра нядаўнюю сустрэчу ў гайнаўскім музеі, зладжанай для ліцэістаў. У якасці госця выступіла ўніверсітэцкая выкладчыца доктар Лена Глагоўская, якая засяродзілася на тэме нацыянальнай свядомасці. Яна прывяла ліцэістам прыклад адной дзеўкі з Гайнаўкі, якая хацела паступіць ва ўніверсітэт на Памор'і. У час кваліфікацыйнай размовы камісія пацікавілася яе нацыянальнасцю. Тая выпускніца белліцэя ў лік беларусаў уключыла адно сваіх бацькоў. І правалілася. Экзаменатары сказалі ёй: *Nie potrzebujemy ludzi, którzy nie wiedzą kim są!*

* * *

На сустрэчы з першакласнікамі і дашкольнікамі мы размаўлялі пра Свята Маці. З гэтай нагоды ў школе адбудзецца вялікае мерапрыемства. За адным махам адзначаць Дзень маці і Дзень бацькі.

— Яшчэ не было такой справы, каб бацькі ў нечым адмовілі, падвялі, — кажа дырэктар. — Самі адрамантавалі сталовую, навялі парадкі ў будынку і наваколлі. Іх энергія і рашучасць у захаванні школы матывуе ўсіх да працы. Большасць мерапрыемстваў, што з'яўляецца феноменам у нашым настаўніцкім асяроддзі, арганізуюць у выхадныя дні. А ўжо найбольшым гітом падаліся мне начныя сеансы з фільмам. Карацей, вучні і настаўнікі сустракаюцца на начлег у школе, каб разам глядзець шэдэўры сусветнага кіно.

— А як на гэта глядзяць бацькі? — спытала я з недаверам і пазітыўнай зайздрасцю.

— Бацькі давозяць нам піцу з Гайнаўкі, — кажа спадарыня Франкоўская. — Яны ўвесь час разам з намі...

— Усім тут залежыць, каб школа засталася, і кожны як можа нас падтрымоўвае, — дадае Яраслаў Грабоўскі. — І гэта датычыць не толькі бацькоў. Часта на школьны пляц вечарам прыходзяць мясцовыя выпівохі. І, ведаеце, яны ў знак салідарнасці пакідаюць пустыя бутэлькі з-пад піва. Яны ведаюць, што мы прадамо іхнія бутэлькі і за гэта купім сродкі гігіены...

— А ці школа перватрывае? Гэта пытанне іншага роду, — задумваецца дырэктар. — Усё залежыць ад дэмаграфіі.

Мне, уражанай прыемнай атмасферай школы, вельмі хацелася падтрымаць па духу грамаду з Арэшкава. Як не цікава, у гэты дзень нарадзіўся ў маіх сяброў доўгачаканы сынок. Дзве іншыя сяброўкі аб'явілі, што восенню ў іх пабольшыцца сямейка. А ў самым Арэшкаве дашкольніцы распавялі пра дзве цёці, якія неўзабаве народзяць дзяцей...





# Норма і паталогія

*Найбольш цяжка адказваць на дзіцячыя пытанні. Мае малыя дзеці, пачуўшы нешта ад дарослых ці ў тэлевізійных навінах, часта дапытваюцца: „А якія дзядзькі — добрыя ці кепскія — кіруюць гэтай краінай?". Стараюся адказваць, як думаю, пазбягаючы катэгарычнасці, але дзеці патрабуюць канкрэтыкі і адназначных акцэнтаў. „Дзе ўсё ж горшыя дзядзькі кіруюць — у Расіі ці ў Кітаі?" — „А ў Бразіліі ўсё ж добрыя ці кепскія кіруюць?". Пры тым дзіцячая свядомасць не прымае сярэдніх характарыстык — ёсць дабро і ёсць зло, і нешта адно мусіць выразна дамінаваць. У палітычнай рэальнасці ўсё куды больш складана, але часам зло сапраўды набывае такое яскравае аблічча, што яго ўжо ні з чым не пераблытаеш.*

*На мінулым тыдні можна было засмуціцца і парадавацца за французаў. Засмуціцца таму, што ўсё ж большыня зрабіла свой выбар на карысць сацыяліста Франсуа Аланда. А парадавацца таму, што дзякуючы дэмакратычным заваёвам папярэдніх пакаленняў народ гэтай краіны мае магчымасць выбіраць і змяняць кіраўніка дзяржавы. Мне ніколі асабліва не падабаўся Нікаля Саркозі, але тое, як ён выходзіць з пасады прэзідэнта Францыі выклікае павагу. Саступіўшы пару адсотказ свайму саперніку, ён не стаў наракаць на нейкія пабочныя фактары, а адразу прызнаў сваю паразу і запрасіў пераможцу разам ускласці кветкі на дзень заканчэння Другой сусветнай вайны. І гэта норма. Такім чынам палітыкі яднаюць нацыю і выяўляюць, што асабістыя інтарэсы ім менш важныя, чым дзяржаўныя і грамадскія. І мне зусім не падабаецца папуліст Франсуа Аланд, але ёсць надзея (на жаль, ужо не ўпэўненасць!), калі за яго ў Францыі праз пяць гадоў не прагаласуюць, то ён таксама спакойна сыдзе і саступіць сваё месца, прыкладам, Марын Ле Пэн, якая набірае ўсё большую падтрымку і якая ідзе ў французскае грамадства з палітыкай праўды. Абранне ж Аланда, гэткага „французскага Абамы", хіба ніяк не паўплывае на стаўленне Пятай Рэспублікі да Беларусі. Ужо дзвесце гадоў, з часу Напалеона, Беларусь мала цікавіць Францыю. Наша тэрыторыя ляжыць у сферы геапалітычнага інтарэсу іншай буйнай дзяржавы Еўрасаюза — Нямеччыны, якая імкнецца разам з Расіяй падзяліць кантынентальныя ўплывы.*

*А цяпер уявіце такую сітуацыю, што Аляксандр Лукашэнка віншуе Андрэя Саннікава з абраннем на справядлівых выбарах галоўнай асобай Беларусі. Ці ўжо і нарэшце пераабраны Уладзімір Пуцін разам з Барысам Нямцовым ці Міхаілам Прохаравым разам ускладаюць кветкі ахвярам вайны. Ці Віктар Януковіч выпускае з турмы Юлію Цімашэнку, а ўкраінскі суд цалкам аднаўляе яе ў правах і яна можа балатавацца ў прэзідэнты! Ад аднаго толькі такога гіпатэтычнага ўяўлення хочацца плакаць альбо істэрычна і горка смяяцца. І таму насельнікам амаль усёй постсавецкай прасторы можна толькі спачуваць. Гэтая зямля нібыта праклятая, колькі ўжо нацярпеліся нашы народы, а ўладная цемра ўсё згушчаецца. І ўсё ад таго, што злачынствы камунізму XX стагоддзя дагэтуль належна не асуджаны на міжнародным роўні. Ізноў культывуецца псеўдапатрыятызм, на сцягі ўздымаюць Леніна і Сталіна, а савецкі народ аб'яўляецца гераічным. Усё гэта зноў мы ўбачылі на чарговым навязлівым святкаванні „дня перамогі". У той час, калі ўсе нармальныя краіны адзначаюць заканчэнне страшнай сусветнай вайны, тут усё працягваюць ваяваць і „перамагаць". Ізноў на пляцах танкі, маршы энкавэдыстаў і мілітарысцкая рыторыка. Як нейкі тэатр гістарычнага абсурду. Такая паталагічная прага „скокаў на касцях". У нашу свядомасць убівалі гэта з дзяцінства, потым прыйшла перабудова і раскрылася шмат праўды. Але зараз уся пачварная сутнасць бальшавізму адраджаецца і развіваецца. І ўжо можна ўсё часцей пабачыць на вуліцы маладзёнаў у майках з надпісам „СССР", а дзяржава рыхтуе свае атрады юных „хунвэйбінаў". Пакуль гэта выглядае пераважна як абсурд, але гэткае адраджэнне „савецкасці" з'яўляецца сур'ёзнай паталогіяй, ад якой грамадства вылечыцца яшчэ не хутка. Зло і ёсць зло, нават калі выглядае недарэчна.*

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вятры і надпісы

*Мой улюбёнец, спадар Л., неяк прыціх, ад калі вянчуючая ў еўрасаюзнай салідарнасці Еўропа паказала яму „яй-яй пернічак". Нядобра! Нядобра, што Еўропа і бізунчыкам, і пернічкам. Але і добра, што бачыцца, што значыць для каго пернічак. Дамарослым дзеячам заўсёды ён у смак! Асабліва тым з-пад сцяга з народным узорыкам. Ды кіньма дзеячаў. Давайце, спадар Л., што-небудзь ці неяк, бо — нудотна!*

*Ну дык каб не было нудотна... Адзін сфрустраваны муж, калі ягоная жонка перасаліла суп, узяў яе за кудлаты чэрап і, разбіўшы яго на свежапамаляванай сцяне, запісаў крывавячым мозгам паспяховы надпіс: „Памятай, золатца, каб паважаць свайго мужанька!". Ужо чую пратэсты ўсялякіх эмансіпантак. Ды я вяду гаворку ж не аб няроўнасці полаў, а пра мозг. Аб чалавечым мазгу гавару.*

*Так сабе я думаю, што ў Беларусі ўсе сцэны ўжо запэцканыя надпісамі. Здаецца мне нават, што больш тых надпісаў, чым саміх сцен. А так папраўдзе, дык няма ніякіх сцен. Ёсць толькі надпісы. Заўжды, заўжды пачынаюцца яны ў мозгу. Значыць, гэта чалавечыя надпісы. Толькі якія тады людзі, што сваім крывавым следам запісваюць усемагчымыя сцэны? Калісь я меў уяву, не менш дурную чым вышэйпрыведзеныя аповед пра жорсткага мужа, што беларусы прачнуцца ад злога сну. Нафіг праўда. Яны спяць. А аб чым сняць? А няхай ім сніцца! Прынамсі не чуюць вятроў... гісторыі.*

*Ну дык скажу пра вятры. Не, нічога, нічога скаталагічнага. Маю на думцы вятры, якія ў апошні час турбуюць нашу вёску. Яны (прашу прабачэння за брыдкаслоўе) п...дзяць, п...дзяць, п...дзяць! Сапраўды, як памятаю з дзяцінства, яны не веюць ужо, дзе дуюць, не дзьмуць.*

*У Правансіі, дзе дзьме вецер званы містралем, у той час даходзіць да жорсткіх забойстваў і паўсюдных самагубстваў. Так раз'ярвае людзей той вецер. Я мусіў быць у папярэднім увасабленні ахвярай правансальскага амоку. Бо як інача растлумачыць маю празмерную ўражлівасць на тое безупыннае, працяглае напіранне, храбусценне паветраных частак адна аб адну, іх папісканне, шоргат? Прычым, не маю на думцы такіх вятроў, якія траплялiся ў мінулым. Напрыклад, у маім дзяцінстве. У той час віхуры — і тут буду сходзіць у ніз іх напругі: парывістыя подыхі, капрызныя завіраванні (тыя шаленствы вясны або восені), яшчэ капрызлівыя ветрыкі, зефірыкі і бурныя стогны, што канчаліся маланкай, што, казалі, пустошыла лясныя арэхі — усе яны мелі натуральную схільнасць да задзіўлення. Яны былі непрадказальныя, ды адначасова ўпісваліся ў чаканы ўзор пераменлівасці. А цяпер?!*

*Сённяшнія вятры, тыя моцныя і тыя слабыя, маюць характар кроплі, якая ўдзельнічае ў кітайскім катаванні. О! Такое катаванне вось тонкасць жорсткасці! Вынайшлі яго нашы браты бычцам бы жоўтаскурыя. Хто аднак бачыў кітайца і скажа, што ў яго жоўтая скура, дык мусіць быць дальтаністам. У кітайца алебастравая скура. Хто бачыў алебастр, той ведае, якое ў яго прыгожае адценне. Ды гэта так у дужках. Катаванне кроплямі гэта самае гожае вынаходства нашых касавокіх братоў. Іншая справа, што яны не лічаць нас сваякамі. Ад нас яны кажуць, што мы — варвары. Дарэчы, той варвар, спадар Л., вельмі стараецца за сябройства з імі. Ды вернемся да катавання кроплямі... Кітаец саджаў злачынца пад конаўкай поўнай вады; з дна конаўкі, у якой прасверлілі дзірку, скапвала на галаву бедалагі вада — кропля за кропляй. Нават самыя мужныя вытрымлівалі не даўжэй чым тры дні. Пасля здаваліся. Або лепш: былі гатовы да кожнага супрацоўніцтва з катамі. Ну і маем, можна сказаць, што пакута, хоць бескрывавая, прыносіла адметны вынік. Без таго, каб валіць чэрапам у сцяну, усе гаварылі тое, што трэба было сказаць. Я падобна адчуваю сябе, калі пачынаюцца тыя пастаянныя, дакучлівыя, беспярпынна ад ранку да мораку п...чыя вятры. Вось гэта для мяне пакута! Не трэба ніякага кітайскага метаду. Ані спосабу спадара Л. Скажу ўсё. Ад часу, калі могільнікі перасталі быць АГАРОДАМІ памяці, не хачу больш бачыць гэтых цэментна-мармурных мемарыялаў. Некалькі гадоў таму каталіцкі могільнік у Нарве дашчэнту агалілі з дрэў. І дзіўна, праваслаўным не мяшала старадрэўе. Я абяцаў, што скажу ўсё: гэта я напісаў на могільнікавым муры „НЕ!!!".*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Прапаную нацыятэрапію



*На мінулым тыдні задзівіла мяне рашэнне прэзідэнта Беластока Тадэвуша Трускаляскага не знімаць з помніка героям Беластоцкай зямлі самавольна прычэпленых слоў, выканаых з агромных літар: „Bóg, honor, ojczyzna" ды арла ў кароне. Не ідзе мне пра тое, ці так тыя словы, як і арол у кароне павінны там віднець. Не пра разважанні — як гэта назвалі некаторыя мясцовыя медыі — пра дэкамунізацыю таго помніка, прысвечанага, м.інш. жаўнерам, змагаючымся з незалежніцкім партызанскім падполлем. Маю на ўвазе прэцэдэнт, які стварыў прэзідэнт Трускаляскі, значыць, дазвол на самаволю ў сферы дзеянняў у публічнай прасторы, якія дагэтуль патрабавалі ўзгадненняў з адпаведнымі прадстаўнікамі грамадскасці, значыць улады (у гэтым выпадку не толькі прэзідэнта, але таксама, напрыклад, захавальніка помнікаў). Прыгадаю, што надпісы і арол паявіліся ў таемных абставінах і самавольна ў канцы леташняга верасня. Іх павесілі, як пасля стала вядома, прадстаўнікі Клуба зняволеных, інтэрнаваных і рэпрэсаваных ды Звязу палітычных зняволеных сталінскага перыяду. Паліцыя і пракуратура заняліся справай. Першая з гэтых устаноў адмовілася ўзбуджаць справу, а другая не знайшла прызнакаў правапарушэння. Як гаварыў у час прэс-канферэнцыі прэзідэнт Трускаляскі, гэта дало яму аснову не знімаць павешаную сімволіку, а нават падмяніць яе „больш трывалымі элементамі".*

*Мяркую, што дзеянні, а на справе іх адсутнасць, пана прэзідэнта ў справе звязанай з помнікам самаволі, падаюць ясны сігнал, што можна бяскарна, а проста са згодай улад, здзяйсняць розныя акты самавыяўлення сваіх поглядаў так, як у гэтым выпадку, на аб'ектах публічнай прасторы. З гэтага вынікае пытанне, чаму не замазваць двухмоўныя ўказальнікі з назвамі мясцовасцей. Тут жа, мабыць, таксама пракуратуры — следуючы парадку яе думак наконт беластоцкага манумента — пры „добрай волі" цяжка было б знайсці прызнакі правапарушэння, балазе, што ў тым выпадку здзяйсняльнікаў тых учынкаў складана выявіць.*

*Пры нагодзе варта вярнуцца да тэмы замазання польска-беларускіх дарожных указальнікаў у Арлянскай гміне і іншых падобных здарэнняў, асабліва мінулагодніх, у тым замазання двухмоўных паказальнікаў мясцовасцей у Пунскай гміне ды актаў ксенафобнага характару, здзейсненых у Беластоку, Крынках ці Ядвабным. Суды, выносячы прыгаворы віноўнікам (хаця малое спадзяванне на іх выяўленне і пры ўмове, што магчымыя справы не будуць пагашаны, што практыкавалася дагэтуль у падобных выпадках), павінны ў сваіх рашэннях пайсці следам Следчага арышту ў Гайнаўцы, які ў рамках рэсацыялізацыі турэмнікаў прымяняе сабакатэрапію. Гэта ўявлі іншыя польскія турмы і гайнаўскія тэрапеўтычныя адносіны паміж зняволенымі і сабакамі сталі прымяняць у адносінах да асоб асуджаных за здзекі над жывотнымі. У выпадку ксенафобаў, расістаў ці звычайных хуліганаў, адказных за вышэйпрыведзеныя праявы неталерантнасці, павінна прымяняцца нацыятэрапія, такая сабакатэрапія ў іншым вымярэнні. Гэтак віноўнікаў трэба было б кіраваць да грамадскіх прац пры ладжанні, напрыклад, фэстаў і іншых меншасных мерапрыемстваў, ці на стажыроўкі, хаця б у „Ніву". Урэшце ж „чужы" становіцца бліжэйшым у выніку знаёмства з ім. У любым выпадку недастаткова такіх заклікаў як тыя, накіраваныя падляшскім ваяводам, бельскім старостам і арлянскім войтам пасля малюнкаў на арлянскіх паказальніках: „Гэты акт вандалізму заслугоўвае найвышэйшага асуджэння". Балазе, што іншыя ўлады (глядзі: справа помніка і пазіцыя прэзідэнта Беластока) здаюцца сваімі паводзінамі вяшчаць зусім іншае.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Царкоўная музыка ў Гайнаўцы

У прыпушчанскім горадзе Гайнаўка ўжо 31 раз прайшоў фестываль царкоўнай музыкі. Сёлета арганізатары Міжнароднага фестывалю „Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі", які з 6 па 12 мая адбыўся ў Свята-Троіцкім саборы, паставілі ў галоўным на павышэнне ўзроўню царкоўнага спеву сярод прыхадскіх хароў. Наладзілі яны семінар і майстар-класы па царкоўнай музыцы, у якіх прынялі ўдзел, між іншым, дырыжоры і харысты. Сярод конкурсных выканаўцаў выдатную большасць састаўлялі праваслаўныя прыхадскія хары з Польшчы і замежжа і хары праваслаўнага духавенства. Ужо традыцыйна найбольш замежных харыстаў прыехала з Рэспублікі Беларусь і, так як было ў мінулых гадах, дабіліся яны перамогі.

царквы і Мітрапаліцкі хор Праваслаўнай царквы Чэшскіх і Славацкіх зямель. Пасля аказалася, што ў гэтым годзе конкурсная камісія не прысвоіла ўзнагароды Гран-пры. У катэгорыі іншых хароў (апошнім часам лаўрэат з гэтай катэгорыі адкрываў чарговы фестываль) першыя раўнапраўныя месцы занялі згаданыя хары з Беларусі і Румыніі, якія, паводле журы, запрэзентавалі самы высокі ўзровень спеву і рабілі гэта з вялікай духоўнасцю. Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў хор са Славакіі, а трэцяе месца — калектыў „Vesperascit" з Варшавы. Хор духавенства Гродзенскай епархіі ўжо выажно каля 1700 кіламетраў, — заявіла адна чарнагорка.

Цікава запрэзентаваліся Балгарскі праваслаўны хор з Берліна (атрымаў вылучэнне ў катэгорыі іншых хароў), які састаўляюць перш за ўсё балгарскія студэнты. На прыстойным узроўні выступіў Хор „Свяцілен" Прачысценскага прыхода з Вільні (Літва), які ў катэгорыі прыхадскіх замежных хароў заняў другое месца (у гэтай катэгорыі выступіў яшчэ хор чарнагорцаў, але не даехаў хор з Расіі). Агульнае станоўчае ўражанне зрабіў на сабраных Мужчынскі хор Дзяржаўнага калектыву песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь



У маладзёжным хоры Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім співаюць дзяўчаты з бельскай „тройкі"



Хор духавенства Гродзенскай епархіі

— Гэты фестываль глыбока пранік у нашую свядомасць. Так, што сёння было б цяжка без яго ўявіць сабе веснавыя дні Гайнаўкі. Чаму так ёсць? Бо царкоўны спеў моцна ўплывае на душу чалавека, на яго духоўны стан, пачуцці, малітоўны настрой і паводзіны. Гэта дасканалая форма радасці, якую толькі чалавек можа выказаць. Царкоўны спеў — спосаб выказвання найвышэйшай пашаны да Бога, — сказаў у час адкрыцця мерапрыемства мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава ў прысутнасці шматлікіх знатных гасцей і гайнаўскай публікі. У час інаўгурацыі фестывалю ўдала выступіў Хор духавенства Варшаўска-Бельскай епархіі, мінулагодні лаўрэат першага месца ў катэгорыі іншых хароў.

— Чарговы раз Гайнаўка становіцца месцам, дзе можна атрымаць глыбокія ўражанні. Царкоўная музыка разбуджвае ў людзях удзячнасць, пакору, уражлівасць, спалучае людзей, спрыяючы замацаванню ўзаемнай згоды і любові. Праваслаўныя песні гэта гарачыя малітвы, якія выяўляюцца словам і музыкай. Узбагачваюць яны ўнутранасць чалавека, разбуджваюць да разважанняў, роздумаў, дазваляюць адарвацца ад зямных, прамінаючых спраў, — гаварыў дырэктар фестывалю, мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, звяртаючы ўвагу, што ганаровы патранат над мерапрыемствам трымаюць прэзідэнт Рэчы Паспалітай, маршалак Падляшскага ваяводства і Фонд культуры. Калі ў час конкурсных слуханняў у Свята-Троіцкім саборы тры разы выходзілі співаць прыхадскія хары з Гайнаўкі, публіка слухала іх з асаблівай увагай, бо ж выступалі харысты з іх горада — сямейнікі, сябры і знаёмыя.

— Праз спеў мы набліжаемся да Бога. Заўсёды співаем з малітвай, але на фестывалі дадаткова патрэбная віртуознасць. Без співання мы не ўяўляем сабе малітвы ў царкве і мы рады, што належым да нашага хору. У ім добрая атмасфера, а сённяшні ўдалы выступ гэта вялікая заслуга нашага дырыжора, — гаварылі харысткі са Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

Удала запрэзентаваліся парафіяльныя хары з Бельска-Падляшскага і Беластока. Першае месца сярод прыхадскіх хароў з Польшчы за віртуозны спеў конкурсная камісія прызначыла Хору Успенскай парафіі з Бельска, які ў сваёй катэгорыі перамагаў на гайнаўскім фестывалі ў мінулым. Другія месцы ў гэтай катэгорыі занялі Маладзёжны хор і хор „Aksion" з Мікалаеўскага кафедральнага прыхода ў Беластоку, а трэцяе месца — Кафедральны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

— Мы моцна хваляваліся, але співалася нам добра, бо і акустыка ў саборы выдатная. Рыхтуючыся да фестывалю, удалося нам павысіць узровень спеву, — сказалі маладыя харысткі з Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, якія атрымалі вылучэнне. У хоры, за выключэннем некалькіх асоб, співалі дзяўчаты з бельскай „тройкі".

У катэгорыі дзіцяча-маладзёжных хароў першага і другога месца камісія не прызначыла, а трэцяе заняў Дзіцяча-маладзёжны хор „Васлікнавенне" гайнаўскага прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля. З гэтай парафіі запрэзентаваўся таксама хор дарослых спевакоў. Усе конкурсныя выканаўцы з Польшчы выступілі на свой спосаб цікава. Апрача прыхадскіх хароў з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Беластока, прыехалі парафіяльныя хары з Сямятыч і Драгічына, якія атрымалі вылучэнні і калектыў „Vesperascit" з Варшавы. Багаты і цікавы рэпертуар з вялікай ангажаванасцю запрэзентавалі замежныя выканаўцы — Хор духавенства Гродзенскай епархіі, Хор духавенства Румынскай праваслаўнай ступаў на гайнаўскім фестывалі некалькі разоў, але на гэты раз запрэзентаваўся асабліва, падабраў цікавы рэпертуар і выканаў яго вельмі ўдала. Частку твораў запрэзентаваў на беларускай мове, перш за ўсё беларускі гімн „Магутны Божа", з якога пачаў выступ, царкоўныя творы аўтарства вядомага і па-за Беларуссю кампазітара і заадно дырыжора гродзенскага хора протаіерэя Андрэя Бандарэнкі і народны твор „Калядная іерусалімская" апрацаваны таксама гродзенскім харыстам, протаіерэем Аляксандрам Шашковым.

— Сёння, мабыць, самы лепшы наш выступ за апошнія гады. Хаця ў нашым хоры співаюць святары з гарадскіх і вясковых прыходаў, можна лічыць хор напалову прафесійным. Мы сёння частку твораў заспявалі па-беларуску. Я лічу, што варта ўводзіць у рэпертуар царкоўныя творы на беларускай мове, якая таксама разнастайная і глыбокая і з выкарыстаннем яе можна перадаваць духоўны патэнцыял, — гаварыў на прыгожай беларускай мове протаіерэй Аляксандр Шашкоў. — Наш дырыжор протаіерэй Андрэй Бандарэнка гэта адзін з самых вядучых нашых кампазітараў царкоўнай музыкі за апошнія 40 гадоў.

Сам протаіерэй Андрэй Бандарэнка пацвердзіў, што ў рэпертуары гродзенскага хора ёсць многа царкоўных твораў яго аўтарства на беларускай мове, якія хор співае ў час канцэртаў.

— Мы не співаем на багаслужбах, бо святары служаць у розных прыходах, а рыхтуемся да выступаў перад публікай у час канцэртаў, фестываляў, — сказаў протаіерэй Андрэй Бандарэнка.

Крыху інакш, чым выконваецца ў нас царкоўную музыку, співаў Хор святога мучаніка Станка Астрожскага Праваслаўнага прыхода святога Васілія Астрожскага з Нікшыча ў Чарнагор'і.

— Каб прыехаць сюды, мы праехалі (атрымаў вылучэнне ў катэгорыі іншых хароў). Дзейнічае ён амаль 70 гадоў і здабыў прызнанне ў час замежных канцэртаў, выступаючы перш за ўсё з патрыятычнымі песнямі, балетам, кампазіцыямі класікаў, народнымі творамі і сучаснай музыкай. Хаця на фестывалі выступіў толькі мужчынскі хор, у Гайнаўку прыбыў таксама аркестр і балет Калектыву песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, які меў яшчэ выступіць са свецкай музыкай у гайнаўскім і нараўчанскім амфітэатрах ды ў Белавежскай пушчы. У рамках фестывальнага мерапрыемства ў Гайнаўскім доме культуры можна было паглядзець выстаўку ікон, аўтарам якіх з'яўляецца Аркадзь Свентахоўскі з Чаромхі.

Фестываль суправаджала фатаграфічная экспазіцыя „Колеры праваслаўя. Польшча" ў ніжняй царкве гайнаўскага сабора. Перад сёлетнім выпускам Міжнародны фестываль „Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі" быў асабліва вылучаны — стаў лаўрэатам Падляшскай маркі 2011 года і атрымаў узнагароду імя князя Канстанціна Астрожскага. Арганізатары фестывалю, якімі з'яўляюцца Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне „Любіцелі царкоўнай музыкі" і Гайнаўскі дом культуры, запрапанавалі паслухаць царкоўны спеў у выкананні конкурсных удзельнікаў у час асобных канцэртаў, якія адбыліся ў Нарве, Гарадку, Супраслі і Варшаве. На свой спосаб цікавымі былі таксама выступы конкурсных хароў і калектываў са свецкай, у галоўным народнай, музыкай, якія адбыліся перш за ўсё ў Асяродку лясной адукацыі „Ягелонскае" ў Белавежы, у выглядзе плэнернага канцэрта „III Фальклорнае гасцяванне". Гала-канцэрты фестывалю адбыліся ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, у Сафійскай царкве ў Беластоку і ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку.

## Сустрэчы з чытачамі — неабходныя

Апошнім часам солтыс Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны, а заадно карэспандэнт „Нівы” і член Літаб’яднання „Белавежа” Янка Целушэцкі пачаў павучаць, чым павінны займацца ўсе солтысы, карэспандэнты, настаўнікі, радныя і астатнія людзі добрай волі, каб павялічыць кола чытачоў нашага штотыднёвіка і тым самым павялічыць яго тыраж. Аднак каб „Ніва” была больш папулярнай, праверкі колькі экземпляраў яе прадалі ў крамах ГС недастаткова. На мой погляд, важна хто, як, аб чым і для каго піша. Адным словам „Ніва” павінна быць яшчэ больш цікавым часопісам.

Янка Целушэцкі не заўважае яшчэ адной справы, вельмі важнай для папулярызацыі не толькі „Нівы”, але ўвогуле чытання беларускіх выданняў. Маю на думцы сустрэчы з чытачамі ў вясковых святліцах у клубах і школах. Таму, дзеля беларускай справы, прапаную нiўскаму карэспандэнту прыняць удзел або арганізаваць сустрэчы і на старонках „Нівы” інфармаваць аб іх выніках. Мне самому цікава было б прачытаць, колькі экземпляраў тыднёвіка ці яго кніжак купілі ўдзельнікі такіх сустрэч, якія ў яго творчыя планы.

Тое, што карэспандэнт ганяецца на ровары, заглядае ў крамы гэта вельмі добра, але толькі для яго здароўя. Да чытачоў трэба ставіцца з павагай, трымаць пастаянны кантакт з імі, таму спатканні ў клубах, святліцах, школах, прадшколлях — справа неабходная.

**Віктар БУРА**

## Лепшая дарога ў Белавежскую пушчу

Праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку хоча ў гэтым годзе мадэрнізаваць некалькі падляшскіх дарог. Ужо мае запэўненае еўрасаюзнае дафінансаванне.

Гэтак справа маецца з 21-кіламетравым адрэзкам дарогі з Гайнаўкі ў Елянку (гэта шлях з Гайнаўкі ў Кляшчэлі). Дарога будзе перабудавана за больш чым 72 мільёны злотых з Еўрасаюза. Гэта чарговы этап мадэрнізацыі шляху ў Белавежскую пушчу. Дарога будзе пашырана да сямі метраў, будзе новая маставая. Крутыя павароты будуць карэкціраваны. Запланавалі таксама веласіпедныя сцяжынкі.

## Дубы-волаты ў пушчы і ў горадзе

Прыгожыя дубы-волаты растуць у Белавежскай пушчы і яе наваколлі. Для такіх падбіраюць назвы дуб-цар або дуб-патрыярх. Яны цешаць нас спакойнай прысутнасцю і магутнасцю. Шматвяковыя дубы знаходзяцца, м.інш., каля вёсак Лазіцы, Ліпіны, Пераходы, Свінароі, Гнілец, Крыніца і Плянта ды там, дзе прытокі ракі Нараўкі: Брашча і Гвозная ўліваюцца ў яе.

Шмат стройных дрэў гэтай шляхетнай пароды ліставых расце ў горадзе Гайнаўцы. На некаторых дубах у цэнтры горада і на яго акраінах начэплены спецыяльныя зялёныя паметкі помнікаў прыроды.

**(яц)**



Былі і народныя танцы

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Паспяваем разам

**Гэта загаловак новай акцыі Культурнага аб’яднання „Тэрра Інкогніта” ў Крынках. Яна накіраваная, пакуль, да жыхароў вёсак, распалажаных у наваколлі гарадка Крынкі.**

Маленькія жменькі, пераважна пажылых людзей, экзістуюць у сапраўды першабытных абставінах, без сродкаў публічнага транспарту, доступу да кніжкі, паціхеньку растаюць, знікаючы з таго свету як апошні, веснавы снег.

Менавіта ім пасвячаюцца штотыднёвыя сустрэчы з дуэтам „Заранiца”. У аўтэнтычнай аўры вясковай лавачкі ажываюць даўно ўжо забытыя, знямелыя песні. Мо запыліцца вуліца ад скокаў „лысага”, „падыспана”, а Божы свет пабачаць мясцовыя легенды, гісторыі.

Першая сустрэча прайшла на Юр’я ў Азяранах-Вялікіх. Вестка пра візіт вядомай тут „Зараніцы” хутка абабегла вёску. Адны прыйшлі на кіёчках, хто на машыне з другога канца вёскі прыпёрся, некага трэба было і прынесці, бо паслухаць песень усім вельмі хацелася, а сілы ў нагах даўно прапалі. Ніхто не спалохаўся веснавога дажджу з бліскучымі маланкамі. Адзін з больш спраўных гаспадароў сарганізаваў адпаведную колькасць лавачак і крэсел. Жанчыны занялі сядзячыя месцы, у адрозненні ад мужчын, якія няcмела падпіралі працілеглыя падгнілыя платы. Вядома, у Юраўлянскую царкву на юр’еўскае свята нікому з азяранцаў папасці не ўдалося. Цётка Зіна ўспомніла як калісь пехатою хадзілі з Азяран аж у самыя Юраўляны. Бралі з сабой торбы поўныя накрашаных і сырых яек — у якасці ахвяры за жывёлу, якую пакідалі перад вынесенай на царкоўны пляц іконай святога. Тыя, што ў царкву ісці не планавалі, а найчасцей былі гэта хлопцы гадоў шаснаццаці-васемнаццаці, у тым ліку і прысутны на сустрэчы Валодзя Баранчук, 1929 года нараджэння, выходзілі на расу. Да ўсходу сонца збіралася кампанія, якая адпраўлялася на непадалёкую Гушчэву Гару — цяперашні экуменічны алтар, пабудаваны крынскім надляснічым. Там спявалі, елі яечню, запівалі найчасцей жытнёвай альбо цукровай самагонкай. Гэты звычай вясёлага сустракання сапраўднай вясны прапаў у часы нямецкай акупацыі. Тады збірацца не было можна, пагражала за гэта суровае пакаранне. Спадар Валодзя згадаў нямецкі патруль, які, напіўшыся канфіскаваных азяранскіх напояў, уваліўся ў рэчку Свіслач на загуменні.

— Мы пачалі смяяцца. Каб не ўцяклі, то яны нас пабілі б. Немец зняў аўтамат і пусціўся за намі, але не даў рады дагнаць бо падаў, а так пабіў бы, швабіска. Калісь народ быў іншы, — працягвае аповед Валодзя, — дружны. Цяпер малодшы старога ўжо не прызнае. Былі у нашай вёсцы праваслаўныя, жыды і каталікі. Не было розніцы, усе разам збіраліся, от так, пасядзець. У нашай вёсцы заўсёды рабілі дзве забавы: ад каплічкі ў гэты канец сабе і за каплічкай сабе. Ай, папілі, пагулялі... Яны на нашу забаву ідуць, мы да іх сходзім. Ніхто нікому нічога не шкадаваў, а цяпер, няхай Бог бароніць.

— Ой, калісь былі спевы, — далучаецца цётка Зіна, — то ж больш за шэсцьдзесят хатаў тут стаяла, а бывала што і па дзве на адным панадворку. А дзяцей у сям’і не то што цяпер, па двое, і як усе яны павыходзяць на вуліцу...

— Да супольных спеваў далучаліся таксама суседзі з Дзіневічаў, Непарожнеўцаў, якія цяпер на другім баку мяжы знаходзяцца.

Толік Баравік тлумачыць:

— Непарожнеўцы зараз тут за нашай загуменнай рэчкай. Калісь не было гэтых кустоў, дрэваў. Мы маглі бачыць адзін аднаго, паразмаўляць. У іх добрыя галасы былі, а найлепш спяваў Буцько. Бывала, клікнем яму „заспявай!” і Буцько спявае, аж тут чуваць...

Азяранцы з вялікай увагай і хваляваннем услухоўваліся ў тэксты прастарых песень, запісаных яшчэ дзевятнаццацівечнымі хранiстамі нашай культурнай спадчыны. Некаторым ад уражання аж слёзы радасці пацяклі. Яны распазналі, між іншым, „Эй, пайду я па край луга” са зборніка „Pieśni białorusko-polskie z powiatu sokólskiego, guberni grodzieńskiej”, які склаў праф. Ян Бадуэн дэ Куртэнэ. У Азяранах такі рэпертуар выконваўся яшчэ напрыканцы саракавых гадоў XX стагоддздя, як кажуць мясцовыя, „пакуль граніца не адышла”. Так спявала тут, між іншым, Ліда Семяняка і Люба Піхнюта. Лавачная публіка няcмела далучалася да больш ім вядомага музычнага матэрыялу з бежанства і ваеннага перыяду, які гучаў пад жывы акампанемент баяна, балалайкі і флейты. Быў тут таксама мясцовы гарманіст. Заіграць ён, праўда, не змог, бо ягоны гармонік ужо даўно прапаў, а заранічны баян абслужыць не умеў. Абяцаў прадэманстраваць свае здольнасці ў час чарговай лавачнай сустрэчы на гармоніку, які давязуць дзяўчаты з Крынак. Сабраныя апладысментамі дзякавалі за кожную песню, просячы яшчэ і яшчэ. Глыбока ў сэрца арганізатараў сустрэчы запалі словы падзякі, выказаныя са слёзамі прадстаўніком азяранскай публікі: „Добра, што вы тут прыязджаеце. Азяраны адны, другія наглядаеце, спалучаеце апошніх, яшчэ жывых людзей, бо цяпер як вы не прыедзеце, то больш ніхто тут не загляне. Ніхто не будзе сюды заглядаць. Вы знаеце, цяпер усе тут з калочкамі, усе мы дажываем, а вы сваёй музыкай, харызмай можаце пабудзіць гэтых старых людзей, даць ім адчуць, што яны жывуць душою, бо нагамі ўжо ніколі і нікуды”.



У добрай кампаніі



Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА

# Юбілей арлянскіх футбалістаў

Арлянскія футбалісты на спортпляцоўцы ў Кашалях перад матчам з камандай з Мельніка 4 лістапада 2011 года

**Пра традыцыю прапагандавання фізкультуры ў вясковым асяроддзі Арлянскай гміны ўпершыню пісаў я ў „Ніве” ад 20 ліпеня 1997 года. „Лепш каб моладзь займалася спортам, заміж жлукціць піва па барах” — казаў мне тады і зараз падкрэслівае тое ж Сцяпан Лушч, 58-гадовы грамадскі прапагандыст фізкультуры з Кашалёў. Сёлета футбольная каманда арлянскага Гміннага футбольнага клуба адзначае свой юбілей — ужо 25 сезонаў іграе ў класе Б. Восенню мінулага года, пасля дзевяці гульняў яна ў ліку дзесяці каманд апынулася на пятым месцы з 16 ачкамі (столькі ж набралі каманды трэцяя і чацвёртая).**

Фізкультура і аматарскі спорт гэта не толькі здароўе і цялесная моц асоб, якія імі займаюцца. Гэта і балельшчыкам спосаб на правядзенне вольнага часу, заміж выседжвання перад тэлевізарам ці камп'ютарам. Ды не толькі — бо чым больш спартыўных заняткаў, тым спакайнейшыя нашы вуліцы.

Існуе ўжо каля трыццаці гадоў і цешыць ды напаўняе гонарам арлян і жыхароў навакольных мясцовасцей — гэта футбольная спортпляцоўка пабудаваная колішняй кашалёўскай моладдзю. Распаложана яна ў пачатку Кашалёў з боку Орлі, побач лесу званага Борам і лічыцца адной з лепшых у ваяводстве.

Успамінае Сцяпан Лушч:

Спортам, а перш за ўсё футболам, цікавіўся я з дзяцінства. І хаця нашу акуляры, іграў я ў мясцовай камандзе. Падчас навукі ў будаўнічым прафтэхвучылішчы належаў я да ЛЗС (Ludowe Zespoły Sportowe), а пасля завяршэння школы ў 1972 годзе ўзначаліў я гэтую арганізацыю. Ладзілі мы тады розныя спаборніцтвы, за што атрымаў я залатыя і сярэбраныя медалі.

Зацікаўленне спортам бралася з таго, што на вёсках не было святліц ды і тэлевізар быў рэдкай з'явай. Таму моладзь займалася фізкультурай, была здаравейшая і фізічна мацнейшая чым сёння. Амаль у кожнай вёсцы была футбольная каманда, людзі гарнуліся да спорту і ў кожную нядзелю адбываліся матчы. Свае каманды мелі Орля, Міклашы, Малліннікі, Кашалі... У нас не было тады спартыўнай пляцоўкі і мяч ганялі мы па выгане каля могільніка.

У самой Орлі першая спортпляцоўка ЛЗС, да 1970-х гадоў, знаходзілася на ўзгорку за могільнікам — сёння гэта глыбокі пясочны кар'ер зарослы высокім бярэзнікам. У 1970-х гадах футбольную пляцоўку тадышняя моладзь пабудавала ў колішнім дворскім парку з XVIII стагоддзя (побач, паміж каштанамі, тадышні начальнік гміны прыдумаў зрабіць бетонную пляцоўку для танцаў), якая пасля звыш дзесяці гадоў, ужо без ніякага зацікаўлення, знікла, зарастаючы і ператвараючыся ў пашу — такой яна астаецца і да сёння. Зацікаўленне футболам у Арлянскай гміне на шчасце не счэзла, дзякуючы некалькім грамадскім заўзятарам з суседніх Кашалёў.

У пачатку 1980-х гадоў вярнуўся з працы на Шлёнску мой сябра, аднавясковец Сцяпан Хурса і рашылі мы тады пабудаваць сапраўдную футбольную пляцоўку. Адведзена нам адпаведны пляц, а гміна наняла бульдозер і іншыя машыны. Дапамагала нам уся кашалёўская моладзь. У выніку атрымаўся стадыён — з лаўкамі для гледачоў і раздзявальняй для спартсменаў. Пляцоўку шчыльна абсадзілі навокал бярозамі і соснамі.

Калі мы справіліся з пляцоўкай, тады ўзяліся за рамонт святліцы, на гарышчы якой уладзілі кавярню. Ініцыятарам гэтай грамадскай акцыі быў Сцяпан Хурса. А я пачаў падбіраць хлопцаў з розных вёсак для футбольнай каманды. Найбольш футбалістаў было ў Орлі, Кашалях і Міклашах.

Спачатку каманда выступала пад шыльдай LZS Koszele, а з 1989 года прыняла назву SPiUR Orla, бо мясцовы СКР стаў нам дапамагаць фінансава — давалі машыну, на якой футбалісты выязджалі на матчы. Пасля 2000 года называемся GKP (Gminny Klub Piłkarski) Orla.

Наша каманда ўжо дваццаць пяць гадоў іграе ў класе Б (у Падляшскім ваяводстве ў гэтым разрадзе дзве групы: паўночная з дзевяці каманд і паўднёвая — з дзесяці). У сезоне 2001/2002 арлянская каманда іграла ў класе А, дзе сярод чатырнаццаці калектываў занялі мы сёмае месца. Маёй марай была гульня ў класе А, але гэта складаная справа. Ігралі б мы і далей у класе А, калі б у нас была маладзёжная каманда — такія ў нас патрабаванні. А маладзёжнай каманды мы не маем і не прадбачваем... Добра было б, каб такая каманда арганізавалася пры школе. Чаму яе няма — не ведаю; ці гэта школьная моладзь не любіць ганяцца за мячом, ці няма каму гэтага арганізаваць.

Цяпер у нашай паўднёвай групе спаборнічаюць наступныя каманды: Orzeł Кляшчэлі, COKiS Цехановец, Iskra Вышкі, GKP Орля, MKS II Мельнік, Bocian Боцькі, KS Угова, KS Беразова, Husaria Лапы і Błyskawica Дубічы-Царкоўныя (новая, з 2011 года, каманда). Выступаем у зялёна-белых або чорных строях.

За нашу каманду выступаюць: з Орлі — Ігар Кляшчэўскі, Адам Пятроўскі, Рафал Хрост, з Маліннік — Радаслаў Сахарчук, Аляксандр Міранчук, Аляксандр Стэпанюк, з Дыдулёў — Рыгор і Пётр Семенюкі, з Крывятыч — Павел Дзюбанос (брамнік), з Бельска-Падляшскага — Мацей Нявінскі, Давід Стасюк, Дам'ян Ігнацюк, Павел Гуль, Тамаш Анацік, Рубэн Анджэйчук, Лукаш Бужынскі, Крыстыян Ігнацюк, Анджэй Цёлэк, Марэк Валкавыцкі, Пётр Асташэўскі (брамнік), з Беластока — Лукаш Лупінскі. Футбалістаў з Арлянскай гміны менш паловы, найбольш з Бельска, але іх бацькі выводзяцца з нашай тэрыторыі.

Калі гаварыць пра праблемы, дык галоўнай з'яўляецца ўтрыманне мураўнага насцілу. Там ёсць вельмі многа кратоў і яны ўвесь час рыюць, ад дваццаці гадоў. Больш іх заўсёды на восені. А хто заграбае за імі? Я! Белкаваннем ліній пад матч займаюцца хлопцы-балельшчыкі з Кашалёў. Зацягаем сеткі на брамкі.

Наша пляцоўка мае мінімальны памер: 52 на 102 метры. Паводле некаторых футбалістаў трэба яе пашырыць. А шкада, бо для гэтага трэба было б высечы ўсе дрэвы навокал стадыёна, якія мы калісь старанна садзілі будуючы спортпляцоўку.

Маем дзве раздзявальні (драўляныя баракі), г.зн. для нашай каманды і для суддзяў; здаўна не хапае нам трэцяй — для прыезджых каманд.

Балельшчыкі ёсць, але многіх ужо няма — ветэранаў, якія на неадлеглыя матчы падарожнічалі на сваіх веласіпедах, дзеля размінкі. Прыходзяць на матчы таксама жанчыны, дзяўчаты і нават замужнія. Ёсць балельшчык Генак, які на матчы прыязджае веласіпедам з адлеглых на 12 кіламетраў Ракавіч; ён калісь таксама іграў у футбол. Адно не відаць наследнікаў сённяшніх ігракоў; цяперашняя моладзь, на жаль, не вельмі горнецца да спорту, — сумна прызнае нястомны вясковы спартыўны дзеяч Сцяпан Лушч.

* * *

GKP Орля ўвесь час сярод перадавых. Гэта няўрадавая арганізацыя, сваю сядзібу мае ва Управе гміны. Яна выконвае выдатную і патрэбную прамоцыю Арлянскай гміны. Штогадова Гмінная рада прызначае з гміннага бюджэту фінансавыя сродкі на дзейнасць каманды. І так, у 2011 годзе было гэта 12 тысяч злотаў (паводле футбалістаў гэтага ледзь-ледзь хапае), а на 2012 год — 16 тысяч злотаў.

Каманда пад канец кожнага года прадстаўляе ў Гміннай управе пісьмовую справаздачу, з якой вынікае, што: дасканала і амбітна прамуе Арлянскую гміну, прадстаўляючы яе ў ваяводскай футбольнай лізе: у кожным сезоне гэта дзесяць матчаў на тэрыторыі Падляшскага ваяводства па-за Арлянскай гмінай. Да гэтага сяброўскія матчы. І яшчэ:

— удзельнічае ў ладжанні спартыўна-адпачынковых мерапрыемстваў жыхарам гміны;

— арганізуе 90-100 гадзін футбольных трэніровак — тройчы ў тыдзень з красавіка да лістапада, з удзелам гімназічнай моладзі;

— ладзіць спартыўныя заняткі для моладзі (90 гадзін), перадаючы ёй прынцыпы актыўнага праводжання часу і здаровага стылю жыцця.

Каманда наладзіла супрацоўніцтва з Гміннай камісіяй вырашання алкагольных праблем, з мясцовай камандай пажарнікаў, са школьнай моладдзю.

А самі спартсмены авалодваюць умеласцямі калектыўнай працы і самаарганізавання ў групе.

## Работа ці дзіцятка?

Калісьці дзеці марылі стаць пажарнікамі, паліцыянтамі, настаўнікамі, цяпер больш за ўсё акцёрамі, фотамадэлямі і бізнесменамі.

Памянялася таксама форма сям'і. Даўней у хаце жылі дзядулі, бабулі, бацькі і дзеці. Былі вясёлыя бяседы, гульні і смех. Цяпер, на жаль, у хаце адно-двое дзяцей занятых камп'ютэрнымі гульнямі і рознага віду электроннымі цацкамі.

Цяжка, каб было інакш, калі жанчыны нават на „дзяржаўнай” рабоце баяцца быць цяжарнымі. Навокал чуецца, што падпісваюць яны заяўкі, што пакуль не хочуць мець дзяцей. Толькі калі міне тое „пакуль”? Гэта вельмі несправядліва, бо найчасцей дырэктарамі з'яўляюцца жанчыны. Чаму тады кажуць выбіраць: работа або дзіця, што важнейшае — вяртаешся на работу або не працуеш. Асаблівая справа, што паралельна па тэлебачанні ідуць рэкламныя ролікі, накіраваныя на сям'ю. Я самая пачула, што ствараю толькі праблемы ў месцы працы, калі пасля нараджэння дачушкі вярталася на работу. Тады я пытаю: дзе прасямейная палітыка? Можа там, дзе мяне агульна называюць „клопатам”, бо ляжу ў бальніцы або хачу вярнуцца на работу.

Сям'я гэта нас двое і дзеці. Пакуль не памяняюцца адносіны ўлад, так і не будзем мець істотных сацыяльных змен.

**Альжбета РАМАНЧУК**

## Выганка ў Сушчым Барку

1 мая Уладыслаў Грыка з Сушчага Барка ў Нараўчанскай гміне выпусціў свой статак авечак на пашу. Ён — селянін і ўласнік агратурыстычнай гаспадаркі — запрасіў да сябе ўсіх ахвотных і зацікаўленых. Спадар Уладыслаў распавёў і паказаў, як працуе сабака-пастух, расказаў пра свае 60 авечак ды запрасіў у гасціну. Пачастунак быў адмысловы: „свойскі” хлеб, кілбаса, кумпяк, сыр і іншыя прысмакі — ласункі традыцыйнай кухні. Да ўсяго гэтага было свойскае віно ды прахаладжальныя напіткі.

Варта дадаць, што сабралася многа моладзі і старэйшых жыхароў з Ляўкова, Лешукоў, Міхнаўкі і Семяноўкі ды турыстаў. Прыехала тэлебачанне. Цікава было. Стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е.

**(яц)**

*Віктар Швед*

## Душэўнае свята

*Мікалаю Бушку*

Наш гайнаўскі лясны павет  
І шматкультурны Беласток,  
Вас прызнае шырокі свет,  
Едуць хары да нас здалёк.

На Міжнародны фестываль  
Царкоўнай музыкі святой.  
І льюцца песні, як крышталь,  
Уваскрашаючай вясной.

Малітвенны царкоўны спеў,  
Душы спяваючай залог,  
Увысь да неба палящеў,  
Пачуў каб Усявышні Бог.

Царкоўны спеў — культуры клад,  
Душэўных глыбіня ідэй,  
Усходу з Захадам пасад,  
Лучнасць у еднасці людзей.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Нарва і Беласток зрабілі ўжо першы крок!

У час пастаноўкі „рассыпалася” маслёнка з пенапласту. Гэты сцэнічны эфект захапіў і ўзбудзіў публіку ў першых радках. Абсыпаныя „малачком” дзеткі аж кіпелі, каб разам пагуляць на сцэне. Але найперш яны спыталі ў сваёй настаўніцы:

— А можам дапамагчы прыбіраць „малако”?

— Вядома, — з радасцю адобрылі прапанову ўсе настаўнікі, — дапамажыце сябрам...

Праз нейкі момант нарваўскія і беластоцкія дзеткі разам збіралі зярняткі пенапласту, аж прыбралі ўсю падлогу ад дзівоснай „смятанкі”. Гэты жэст прамаўляў больш за ўсякія апладысменты і словы прызнання ў адрас гасцей з Нарвы. І паказаў, што першы крок ужо зроблены...

* * *

8 мая ў Непублічную школу імя Кірылы і Мяфодзія завіталі нарваўскія вучні, настаўнікі і бацькі з пастаноўкай „Перад Юр’ем”. Шэсце гасцей значыў духмяны пах каравая.

Нашу ўвагу звярнулі традыцыйныя аздобы святочнага пірага. Каравай упрыгожылі як на вяселле „гускамі” (птушачкамі з печыва), жывым аспарагусам і белымі банцікамі. У знак прызнання дзеткі падарылі спецыяльныя воплескі непрысутнай бабулі Агаты Беразавец, якая спякла і аздобіла каравай. Дзеці прывезлі з сабой таксама такія хатнія прылады як дзяжа, маслабойка, глякі...

Яшчэ да спектакля са словам выступіла Ніна Абрамюк, настаўніца беларускай мовы і адначасова аўтарка сённяшняй п’есы.

— Христос Воскресе! — прывіталася яна.

— Воистину Воскресе! — адказала зала.

— Хрыстос Уваскрос! — паўтарыла настаўніца.

— Сапраўды Уваскрос! — грымнула зала.

Пасля апошняга прывітання запанавалі добрая цішыня і засяроджанасць.

— Падумаеце, чаму паставілі мы спектакль якраз пра святкаванне Юр’я? — пачала настаўніца. — Бо многія нашыя вучні родам з парафіі Ласінка, дзе ад многіх вякоў надзвычай урачыста спраўлялі гэтае свята. Наш сцэнарый паказвае свет з трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Гэта свет нашых дзядоў і прадзедаў. У ім паказаны традыцыі з вёсак Ласінка, Навіны, Кавела, Ваські, Кленікі...

— А можа вы, дзеткі, таксама маеце там сваякоў або чулі пра свята Юр’я? — пацікавілася настаўніца.

— Тааааак! — пачулася ў адказ...

Беластоцкія вучні патлумачылі, што ў іх свята адзначаюць у парафіі св. Юрыя, што ў квартале Новае Места, і ў многіх там сябры і сваякі.

* * *

Заўсёды вялікае свята папярэджвала вялікая падрыхтоўка. Людзі гатавалі многа ежы, прыбіралі хаты і панадворкі, стараліся паспець з работай у полі. Той, хто справіўся з работай, гаварыў: я ўжо *прыбраўся!* Якраз пра тыя дасвяточныя падрыхтоўкі апавядае нарваўскі спектакль „Перад Юр’ем”. Тут аднак свет пастаўлены дагары нагамі. У выніку хатняй сваркі галоўны герой, гаспадар, рашае заняцца бабскай работай. Ён прыбірае, даглядае ў дзяжы цеста на хлеб, збівае ў маслабойцы масла. Усё, вядома, канчаецца катастрофай — хлеб „уцякае” з дзяжы, маслёнка разліваецца на падлогу, па хаце валяюцца палены і разбітыя яйкі...



Гэты камічны сюжэт ажыццяўляў непаўторны Крыстыян Паскробка. На сцэне ён адчуваў сябе як рыба ў вадзе. Усе яго дыялогі і паказыканчаліся гучнымі воплескамі.

Гаспадынька, якую іграла Агата Беразавец, не ўступала свайму тэатральнаму партнёру. Яна не толькі справілася з мужчынскай работай (муж выправіў яе конікам араць поле), але яшчэ і правучыла свайго мужа. Дынаміка тэатральнай парачкі разлілася на ўвесь спектакль. А трэба вам ведаць, што ў праблемах сямейкі ўдзельнічала ўся вёска. Згодна нашай традыцыі, хлопцы трымалі бок гаспадара, а дзяўчаты, што ім не гавары, ішлі за голасам гаспадыні. Спектакль уражваў прыгожай беларушчынай:

— Oni są niesamowici! — паўтаралі беластоцкія настаўнікі. — Takie małe dzieci i tak ładnie umieją mówić po białorusku!

* * *

Першая сустрэча Нарвы і Беластока напамінала вясновае беларускае свята. Пасля Нарвы выступілі вучні з Беластока: Адрыяна Бакер і Матэвуш Навумюк. Ада і Матэвуш прадставілі свае вершы з конкурсу „Роднае слова”. У праграме апынуліся таксама лаўрэаты „Беларускай гавэнды” Карнелія Порац і Крыстыян Паскробка. Настаўнікі прадставілі таксама сваіх лаўрэатаў прадметнага конкурсу беларускай мовы — Адрыяну Бакер і Матэвуша Навумюка з Беластока ды Агату Беразавец і Агнешку Петручук з Нарвы. А ўжо пасля афіцыйнай часткі дзеткі з дапамогай Генадзя Шэмета спявалі-гулялі беларускае караоке...

— У нас першая сустрэча такога тыпу, — кажа спадарыня Іаанна Марко, настаўніца беларускай і англійскай моў у *праваслаўнай* школе. — Раней да нас прыязджалі дзеці са Швейцарыі, з якімі мы кантактавалі на рускай мове. А тут нам працей, паколькі ўсе мы можам звяртацца да беларускай мовы і мясцовых традыцый. Нашая мара — наладзіць бліжэйшае супрацоўніцтва з такой школай як Нарва.



— Мы ўжо шмат гадоў сябруем са школай у Гарадку і ведаем якая гэта цікавая, патрэбная для вучняў і бацькой справа, — кажа Ніна Абрамюк.

Пра ўражанні мы спыталі таксама дзетак з Нарвы.

— Бо найфайнейшая рэч у школе гэта экскурсіі і падарожжы ў іншыя месцы, — адказалі яны згодна і заняліся падрыхтаваным гаспадарамі пачастункам.

**ЗОРКА**

*(японская легенда)*

# Легенда пра неўміручасць

Жыхары Японіі з надзеяй глядзяць на лятучых жураўлёў. Гэты дастойны птах явіцца ім сімвалам бессмяротнасці і поспеху. Паводле іх легендаў, птах жыве аж тысячу гадоў! Каб споўнілася нашае пажаданне, трэба метадам арыгамі зрабіць тысячу жураўлікаў. Таму невыпадкова фігурка жураўля займае цэнтральнае месца ў мастацтве арыгамі.

Легенда каларытна адлюстравалася ў гісторыі краіны.

6 жніўня 1945 года ў Японіі здарылася вялікая бяда. У выніку выбуху атамнай бомбы загарэўся горад Хірасіма, а тры дні пазней Нагасакі. Загінулі тысячы людзей, жывёл, раслін. Сярод ацалелых апынулася двухгадовая дзяўчынка Садака. Дзяўчынка не памятала катаклізму. Яна расла шчаслівай і марыла ў жыцці стаць спартсменкай. Найгорш, калі не відаць хваробы, калі яна непрыкметнай жыве ў целе і нечакана аб'яўляецца як смяротны знак. Калі Садацы споўнілася адзінаццаць гадкоў, дзяўчынка захварэла на лейкемію. На гэта спрацавала радыяцыя...

Падумаеце, тут канец казцы. Садака, аднак, да канца жыла надзеяй на цудоўнае аздараўленне. У хваробе дапамагала ёй легенда пра жураўлёў. Каб перамагчы смерць, дзяўчынка рашыла зрабіць тысячу жураўлікаў з паперы. На жаль, хвароба наступала ў маланкавым тэмпе і апярэдзіла дзіця. Садака памерла. Да сваёй смерці яна паспела зрабіць 664 жураўлікі... І гэта яшчэ не канец гісторыі.

Уражаныя яе змаганнем аднакласнікі дакончылі справу Садакі. У гонар сяброўкі яны зрабілі з паперы апошнія 336 фігурак...

Сёння ў парку роднага горада дзіцяці стаіць помнік жураўлю. На ім віднее надпіс: *Гэта наш плач, гэта наша малітва пра мір на зямлі.* Калі ў гэтае месца прыходзяць дзеці, яны пакідаюць папяровых жураўлікаў у знак памяці. Гісторыю апісаў нямецкі пісьменнік Карл Брукнер у кніжцы „Садака хоча жыць". Таму дзяўчынка, якая рабіла папяровых жураўлікаў, ніколі не памрэ ў памяці свету. Так спрацавала легенда, якая адначасова была часткай жыцця, каб пасля зноў абярнуцца ў легенду.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## Беларуская вясна

Год таму пад амаль жа такім загалоўкам прыйшлося мне весці ў Познані заняткі для дзяцей па больш і менш традыцыйнай беларускай культуры. Аднак апошнім часам чытаю пра іншую „Беларускую вясну". Праходзіць яна зараз у Вільні. Асноўным пунктам гэтага мерапрыемства з'яўляецца музыка, у тым ліку гуртоў, якія апошнім часам цяжка працавалі.

Якраз на гэтых выхадных Вільня будзе спяваць па-беларуску. Гэты горад заўсёды меў свой уласны беларускі рытм, паколькі беларусы стараліся, каб гэтага духу не згубіць. „Беларуская вясна" ў Вільні рэалізуецца, між іншым, канцэртам „Салідарнасць з Беларуссю" і гэтым самым далучаецца да акцый, якія шмат гадоў вядуцца ў Польшчы. Паколькі раней пра такія акцыі ў Літве шмат не гаварылася, бо іх проста не было, таму зараз трэба і варта пісаць ды распаўсюджваць. А ў Вільню ад нас не так далёка.

Берасцейская „Сцяна" пачала мяняць спосаб прамоцыі і падыход да слухача, таму паяўляецца ў літоўскіх суседзяў. Пару слоў больш скажу пра Vinsenta. Хаця артыст зараз выступае з жывым складам, таму слова „гурт" не такое зноўку чужое і ў гэтым выпадку. Але Vinsent мае ўжо сваю гісторыю. Ён — сімвал нястомнага змагара за адказны змест і песні, якія закранаюць важныя тэмы. Не задавальняе яго расповед пра маладых пацаноў, у якіх праблема сарганізаваць сабе свабодны час на раёне, толькі цікавяць грамадскія, гістарычныя пытанні, якія азнаямляюць слухача, асабліва маладога, з праблемамі сучаснай Беларусі. Ставіць ён пытанні і пакідае слухача з яго рэфлексіяй. Гэта патрэбнае, што пацвярджае апошні менскі канцэрт Vinsenta, які прайшоў у сталіцы 9 траўня. Заангажаванасць двух бакоў, публіка зафіксаваная на вялікай энергіі героя вечарыны — такія канцэрты хочацца глядзець, а прытым важна, што публікі на іх сапраўды многа. Гэтага самага жадаем у гістарычнай беларускай сталіцы — Вільні.

i_basovka@o2.pl

# Конкурс пра вясну (21)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. У якіх школах на Беласточчыне ладзяць начныя фільмавыя сеансы?**

а) у Ягуштове,
б) у Чыжах,
в) у Арэшкаве.

**2. З якім спектаклем прыехалі вучні з Нарвы да сяброў у Беласток 8 мая г.г.?**

а) „Перад канікуламі",
б) „Перад Юр'ем",
в) „Перад бурай".

**3. У якім горадзе і краіне пастаўлены помнік жураўлю, які напамінае пра смерць ахвяр радыяцыі?**

а) у Гомелі ў Беларусі,
б) у Чарнобылі ва Украіне,
в) у Хірасіме ў Японіі.

**4. Які малады беларускі рапер распавядае пра праблемы моладзі?**

а) Vinsent,
б) Аляксандр Памідораў,
в) Стары Ольса.

Адказы дасылайце да 27 мая 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 18.** Школьны фестываль культур нацыянальных меншасцей адбываецца ў Беластоку (в); апекуном хатняй жывёлы лічыцца святы Юры (б); кароў, прыаздобленых у вянкі, выганялі на папас у Дабрывадзе (б); Юр'еўская раса дапамагала дзяўчатам пазбыцца вяснушак і вугроў (а). **Узнагароды, майкі з лагатыпам „Зоркі", выйгралі „paulina 8@spoko.pl", Міхал Стоцкі з Нараўкі, Раксана Аврчук з Арэшкава.** Віншуем!

ЗОРКА

# Вершы Віктара Шведа

## Ля крадзенай аўтамашыны

Ля крадзенай аўтамашыны,
Быццам на сабачы нюх,
Сустрэлася на хвіліну
Двух грозных злодзеяў-спрытнюг.

Адзін азваўся: — Мне ўдаецца
Здабыць машыну, вось стаіць.
Правы вадзіцеля прыдзецца
На жаль за грошыкі купіць.

## Вы не арлы

Ясь пачаў настаўніка прасіць
Каб дазволіў акно адчыніць.
Сцвердзіў ён: — Адчыняй здароў.
Няма сярод вас такіх арлоў,

Якія маглі б увысь паляцець,
Вам замест лётаць
— трэба сядзець.
Па ўроку спытаў Ясь:
— Ці магчыма,
Што і пан выходзіць дзвярыма?

# Польска-беларуская крыжаванка № 21

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17:**

Доза, звон, дар, вера, павет, ява, яр, бо, лес, бор, клёкат, паклон, акраса, які, атлас. Ляля, код, пік, запалка, мара, елка, вясёлка, звер, крот, свет, анал, хор, бот, набор, бас.

Узнагароды, ільняныя сумкі з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Адам Юрчук, Эва Саковіч, Кася Кічкайла, Барташ Ламашкевіч, Уршуля Марчук з Нараўкі, Віялета Дработка, Вікторыя Артэмюк, Патрыцыя Міхальчук, Наталля Тамчук з Бельска-Падляшскага, Мая Мішчук, Войтэк Куптэль, Марцін Аврчук з Арэшкава.** Віншуем!

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Mak / Skok | Karma / Szpik | | | | | | Egzamin | Pub | Obrona |
| Warkocze / Powietrze | | | | | Piołun / Bryła lodu | | | Irka / Rzepa | | | | |
| | | | | Klan / Krok | | | | | Ikona | | | |
| | Park / Mokry | | | | | | Szron | Izba | | | | |
| | | Pan, pani / Źródełko | | | | | | | | | | |
| | Sport | | | | | Czoło | | Om | | | | |
| | Poko-lenie | | | | | | | | | | Oddech | |
| | | | Stóg | | Oj! | | | Anda | | | | |
| | | | | Ob | | | Re | | | | | |
| Strój | | | | | | | Epoka | | | | | |


Вятрак каля Шацілаўкі

■Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Сляды трохсотгадовай даўніны

**З беластоцка-аўгустаўскай шашы, не даязджаючы да Карыціна, відаць бяскрылы вятрак. Быў ён пабудаваны ў 1936 годзе ў той кліматычнай паласе, дзе спрыяльныя вятры, у якой, здаецца, апынулася амаль уся Сакольшчына. Вятрак той стаіць на грунтах вёскі Шацілаўка. Сама Шацілаўка здаецца нічым асаблівым не вызначаецца...**

Падаюся ў наступную вёску, у Дзенцялоўку. Вёска невялікая, на яе канцы будынак тыповы для школьнага будаўніцтва 1960-х гадоў. А на сцяне гэтага будынка вялікая табліца з неспадзяваным этымалагічным зместам. Гэта кароткая легенда, якая расказвае, што праз вёску праязджаў гандляр птушкамі, там яму абарвалася кола ў возе, птушкі разляцеліся з клетак і мясцовасць атрымала назву ад адной з іх.

Будынак той, аднак, зацікавіў мяне яшчэ іншымі інфармацыямі, менавіта ў іншым месцы распавядалася пра цікавыя формы працы, якія там прапануюцца. Заглянуў я тады ў канторку, дзе за камп'ютарам працавала жанчына сярэдніх гадоў. Паінфармавала яна мяне, што ў будынку працуе Асяродак сацыяльнай дапамогі. Але гэта не дом для састарэлых, гэта асяродак для людзей з недамогамі псіхікі, якім цяжка існаваць у „нармальным" свеце. У асяродку адбываюцца тэрапеўтычныя заняткі, м.інш. па рукадзеллю, жывапісе, спорце. Падапечныя ездзяць прэзентаваць сваю творчасць па цэлай Польшчы, м.інш. у Дамброву-Гурнічую, Валч... Асяродак мае прыватны характар, утрымоўваецца з недзяржаўных узносаў, не падтрымліваюць яго тэрытарыяльныя органы, таму прымаюць туды людзі з цэлай краіны, а нават з замежжа — зараз там адна асоба аж з Парыжа. А ўсіх падапечных каля трыццаці асоб.

З Дзенцялоўкі падаўся я ў бок Аўлякоўшчыны. Назва мясцовасці даволі нетыповая і выклікае натуральную спакусу разгадаць яе этымалогію. Некаторыя мясцовыя людзі мяркуюць, што выводзіцца яна з іншай назвы — Галякоўшчына, але мне здаецца крыху інакш. Менавіта ў вобрубе гэтай вёскі калісь існаваў адасоблены фальварак; такія фальваркі называлі авульсамі. Зыгмунт Глогер так яго апісвае: „Awuls z łac. *avulsus* — oderwany, odjęty. Mały, oddzielny folwarczek bez wsi włościańskiej, do większej posiadłości należący". Мабыць, вёска ўзнікла пазней, пры фальварку, прымаючы спярша назву Авулякоўшчына...

Фальварак гэты мае за сабою даволі незвычайная падзеі. А падзеі гэтыя павёў Кшыштаф Казімір Сяніцкі, на той час вялікакняскі мечнік. Ягоная біяграфія незвычайна багатая, але пакуль да яе, спярша пра аўлякоўскі эпізод. Зноў пакарыстаюся цытатай, цяпер з кнігі Рамуальда Буйвіцкага „Janów i okolice": „Za bezwzględne dążenie do wzbogacenia się ówmożny zdobył złą sławę w okolicach Mohylewa i Słucka. (...) W 1705 r. zainicjował napad na folwark aulakowski. Do wykonania zadania zaangażował 200 uzbrojonych konnych. (...) Zrabowano wówczas zboża i zapasy browarne oraz dokonano zniszczeń. Krzysztof Kazimierz Sienicki jednak nie osiągnął w pełni zamierzonego celu, którym było wystraszenie z włości schorowanego gospodarza, strażnika Michała Wyrzykowskiego oraz odebrania mu dokumentu, uprawniającego do władania wsią i folwarkiem. Wprawdzie Wyrzykowski wkrótce zmarł, ale po jego śmierci dzielnie gospodarzyła w Aulakowszczyźnie owdowiała żona. We wrześniu 1706 r. (...) napad powtórzono. Zrabowano wówczas wszystko, co było możliwe do wywiezienia, w tym kosztowności, *bydło rogate i nierogate i wszystką ruchomość*. Wdowę zaś uwięziono. Głodem, zimnem, *różnymi strachami, strzelaniem nad głową* przymuszono do wskazania miejsca przechowywania poszukiwanego dokumentu. Po uzyskaniu informacji wypędzono ją z posiadłości bez kawałka chleba i dokonano napadu na plebanię proboszcza korycińskiego ks. Franciszka Lubońskiego, u którego Wyrzykowscy zdeponowali dokument. Metodą zastraszania i niszczenia wnętrza plebanii uzyskano od proboszcza informację, że akt ten znajduje się u Hieronima Żeromskiego, dzierżawcy Brzozówki i Dobrzyniówki...".

Цяпер чарга расказаць крыху больш пра галоўнага героя прыведзенага эпізоду. Кшыштаф Казімір Сяніцкі нарадзіўся ў 1671 годзе; ягоны бацька Веспазіян быў блізка прымкнуў да Багуслава Радзівіла і, магчыма, быў адміністратарам маёнтка ў Орлі пасля смерці магната ў 1669 годзе і магчыма, што там рос і стаца, м.інш. у Біржах у 1701 годзе і ў нашым Тыкоціне 1 лістапада 1705 года. Менавіта ў час апошняй сустрэчы Аўгуст II Моцны ўстанаўлівае Ордэн Белага Арла, якім узнагароджвае некалькіх сваіх і Пятровых вяльможаў. (Калі наша старэйшае пакаленне з настальгіяй успамінае г.зв. польска-савецкую дружбу, то яе сутнасны падмурак быў пакладзены менавіта тады ў Тыкоціне.) У гэтай сустрэчы прысутнічае і Сяніцкі; магчыма, што непасрэдна з Тыкоціна ён уварваўся ў Аўлякоўшчыну...

Аднак у снежні таго ж года шведскі кароль Карл XII урываецца ў Рэч Паспалітую і выганяе Аўгуста ў Саксонію, дзе той 24 верасня 1706 года падпісвае акт адрачэння ад польскай кароны. Сяніцкі пакідае Аўгуста і падпарадкоўваецца Станіславу Ляшчынскаму, шведскаму стаўленіку, аднак паралельна запаўлеў Кшыштаф. Кшыштаф у 1689 годзе падаецца за навукай у Каралевец, а тры гады пазней у Лейдэн. У Рэч Паспалітую вяртаецца ў 1695 годзе, а два гады пазней, пасля абрання на польскі трон Аўгуста II Моцнага, уваходзіць у склад найбольш даверанай світы новага караля. Неўзабаве „за заслугі" атрымлівае ад новага манарха шмат каралеўскіх зямель, пра высокія пасады тут не згадваючы. Пачынае ён гаспадарыць каля Магілёва, Быхава, Шаўляў ды на заходніх рубяжах Вялікага Княства Літоўскага ў паласе ўздоўж ракі Бярозаўкі. Махлярствамі і насіллем прысабечвае чарговыя землі, ужо без аглядкі на караля; прыкладам гэтаму згаданая Аўлякоўшчына.


Кумялка каля Аўлякоўшчыны

На караля Рэчы Паспалітай у той час можна было і не аглядацца, бо ён быў амаль намінальны, няпэўны свайго трона. У краіне, што ўключылася ў Паўночную вайну, два каралі — апрача Аўгуста II Моцнага яшчэ і Станіслаў Ляшчынскі, абвешчаны каралём шведамі ў 1703 годзе. Аўгуст трымаецца маскоўскага цара Пятра I, з якім сустракаецніваe пасланцоў Пятра I пра вернасць яму. У 1707 годзе Сяніцкі нападае на царскі канвой, які вёз у Рэч Паспалітую вялікія грошы на подкуп польскіх вяльможаў. Сяніцкі схаваўся ў Быхаве, дзе быў абложаны маскоўскім войскам. Атрымаўшы гарантыю асабістай вольнасці і недатыкальнасці ягоных маёнткаў Сяніцкі здаў горад, аднак рускія дамовы не выканалі і арыштавалі Сяніцкага. У 1711 годзе, правёўшы ў кайданах па Маскве, адправілі яго ў Сібір, у Якуцк, дзе ў дарозе памёр ён ад сухотаў на рацэ Об між Сургутам і Нарымам. Быў ён адным з першых дэпартаваных у Сібір насельнікаў тэрыторыі цяперашняй Беларусі.

Пара цяпер вяртацца з Сібіры ў наша старонне. Сяніцкі, гаспадарачы на заходніх акраінах колішняй Гарадзенскай пушчы, рабіў з ёю тое, што ў час Першай сусветнай вайны рабілі з Белавежскай пушчай немцы, а пасля іх „Цэнтура". Менавіта пераўтвараў ён лясное багацце на грошы, высякаючы лес і гэтым спрыяючы асадніцтву на вызваленых землях. Ад пушчы асталася ў той час толькі вузкая мерыдыянная каса, што і цяпер рассякае тэрыторыю Сакольскага павета; калі б не „дыпламатыя" славутага цара Пятра I, верагодна не было б і гэтай касы. Хто ведае, ці не заслугай Сяніцкага з'яўляецца вера нашага мужыцкага насельніцтва ў справядлівасць любога цара ці царыка...

З Аўлякоўшчыны падаўся я ўздоўж Кумялкі. За Шумовам побач дарогі шмат палявых санктуарыяў, збудаваных з паўсюдных там валуноў і камянёў. Далей шаша між Карыцінам і Саколкай, пра якую ў 1794 годзе карыцінскі плябан Юзаф Свяжынскі так пісаў: „Droga do Janowa, razem trakt publiczny zimowy i letni grodzieński, począwszy od kościoła parafialnego korycińskiego na wschód letni polem otwartym do wioski i młyna Romaszkowki na rzece Wasilowce uregulowanego, także polem otwartym i drogą suchą w równej odległości od Janowa po lewej stronie widać wioski Wiłudy i Wiłudki, a po prawej stronie Zabrodzie, Szumowo i Aulakowszczyzna...". У Рамашкоўцы, прытуленым да Забродддзя хутары, працуе млын, даўней вадзяны, на Кумялцы, якую калісь называлі таксама Васілёўкай. Толькі цяпер воднага кола няма, толькі два рэчышчы і запруды на іх яшчэ асталіся; цяпер там электрычны прывод.

За этымалогіяй Вылудаў і Вылудкаў звярнуся зноў да Рамуальда Буйвіцкага: „Możni, wykorzystując panujące w okresie wojny bezprawie, wyłudzali u władcy przywileje na wolne bądź też już nawet przez kogoś dzierżawione dobra. Przejmowali je za królewską zgodą lub podstępem, a nawet przy użyciu siły". У Вылудах, невялікай, здаецца, вёсцы, працуе крама. У Вылудках чатыры хаты старыя, але ў прыстойным выглядзе, і чатыры багатыя новыя. Мабыць, там згодныя гаспадары, бо за вёсачкай высіцца помнік сямі ейным ураджэнцам, якіх з гэтага свету забрала Другая сусветная вайна; у іх ліку і пасол міжваеннага Сейма Адольф Савіцкі.

Пасярэдзіне Ясянёвай Даліны мураваная каплічка, вельмі шэрая з выгляду. Запытаўся я аднаго вяскоўца, ці яшчэ яна служыць вернікам. А як жа, адказаў, напрыклад свенцяць там свянцонкі. І запрасіў мяне заглянуць усярэдзіну. З боязьзю — ці не рассыплюцца — адчыняў я дзверцы: інтэр'ер каплічкі чысценькі, усё там як з-пад іголкі...

Кіламетр да Янава неяк нехаця скіраваў я зрок на запушчаны аб'ект за бетоннай агароджай з боку шашы. Яшчэ аздабляе яго прышарэлая шыльда „PANDEROZA". Гэта ж славутая пагулянка, куды некалькі гадоў таму масава адпраўляўся малады Беласток. Там нават адбываліся эпізоды „свойскіх" фільмаў з цыкла „U Pana Boga...". З ходам гадоў мода на „Пандэрозу" прамінула і яна пустуе...

# Разлічыць сістэму

Размова з **Ігарам КУЗНЯЦОВЫМ**, дацэнтам на аддзеле міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску, удзельнікам навуковай канферэнцыі „Дэпартацыя палякаў з савецкіх Беларусі і Літвы пасля Другой сусветнай вайны”, ладжанай беластоцкім аддзелам Інстытута нацыянальнай памяці.

***— Ці маглі б Вы прывесці даныя наконт рэпрэсавання грамадзян Беларусі ў сталінскія гады?***

— Афіцыйныя зводкі называюць 600 тысяч, з чаго 250 тысяч былі суджаны ваеннымі калегіямі Вярхоўнага суда, ваеннымі трыбуналамі, спецкамісіямі акруговых судоў. Апошнія 350 тысяч трапіла пад адміністрацыйны разбор. Праводзіліся дэпартацыі, а прысудаў не аб’яўлялі. Вось так, папросту, высылалі, напрыклад, у Краснаярскі край. Аднак, паводле маіх падлікаў, гэтая колькасць вагаецца ад 1 350 тысяч да 1 600 тысяч. З чаго такая розніца? Справа ў метадалогіі вылічэнняў. Афіцыйна прымаюцца пад увагу запісы ў архівах, датычныя судовых пастаноў пра дэпартацыі, а не ўлічваючы рашэнняў выканкамаў, нікім не зацверджаных ссылак, па невядомых пастановах. Тройкі НКВД расстрэльвалі больш людзей, а менш займаліся звязанымі з гэтым фармальнасцямі. Для прыкладу: у Курапатах былі праведзены два расследаванні. У 1998 годзе ваенная пракуратура правяла эксгумацыю і знайшла два кашалькі. У адным з іх крымінолагі знайшлі нямнога грошай і запіску пра затрыманне ў гродзенскай турме пад датай 3 чэрвеня 1940 года. Адну з асоб, якой дакументы былі знойдзены ў гэтым кашальку, арыштавана ў Гродне, а ляжала яна ў Курапатах пад Мінскам. Судовы следчы выслаў запытанне ў КДБ пра тыя асобы і атрымаў адказ, што запісаў пра тыя асобы няма. Многа архіваў у Беларусі знішчана, узнавіць іх ужо немагчыма.

Рэпрэсіі гэта не толькі юрыдычны тэрмін, але ўсё тое, што звязана з парушэннем правоў чалавека. Пазбаўленне некага грамадзянскіх правоў (напрыклад, звальненне каго з працы ў рамках палітычнай кары) не называецца, з юрыдычнага пункту гледжання, рэпрэсіяй. У цэлым СССР рэпрэсіі закранулі 25-30 адсоткаў насельніцтва. З ліку беларускіх пісьменнікаў у даваенны час было рэпрэсаваных каля 80%, 62% на Украіне і каля 30% у Расіі. Як відаць на гэтым прыкладзе, у розных рэспубліках і ў розных грамадскіх катэгорыях інтэнсіўнасць рэпрэсій была розная. У Беларусі трэба яшчэ сказаць пра генацыд у адносінах да польскай, літоўскай, латышскай і нямецкай нацыянальнасцей. У дачыненні да іх НКВД праводзіла спецыяльныя мерапрыемствы. Гэта адносіцца і да беларускага народа. Да таго ж дэпартаваныя і іх сем’і былі рэпрэсаваны таксама ў месцах ссылак, а мы ўжо гэтага не лічым рэпрэсіямі, бо яны адбываліся па-за Беларуссю, а гэта ж нашы людзі, якіх закранула другая хваля рэпрэсій. У параўнанні з іншымі савецкімі рэспублікамі рэпрэсіі ў Беларусі былі больш жорсткія. Вынікала гэта з памежнага палажэння рэспублікі і вялося тут змаганне з беларускім нацыянальным рухам.

***— Якіх галоўных праблем са сталінскай эпохі не вырашана дагэтуль у Беларусі?***

— На Ваша пытанне адкажу контрпытаннем: а якія праблемы вырашана? Калі пад увагу ўзяць толькі пытанне рэпрэсій, дык не праведзена ніводнай навуковай дысертацыі і ніштo не паказвае, што такое ў найбліжэйшы час адбудзецца. Не выпушчана ніводнага падручніка для сярэдніх і вышэйшых школ, у якім былі б веды пра той перыяд. У Беларусі няма ніводнага помніка ад імя дзяржавы ў гонар ахвяр рэпрэсій сталінскага перыяду. Гэтую праблематыку ўзнімаюць толькі індывідуальныя энтузіясты, але не дзяржаўныя структуры. Усё, што паўстала ў пачатку 1990-х гадоў у Інстытуце гісторыі Беларускай акадэміі навук, пасля 1996 года было нішчана Аляксандрам Лукашэнкам. У той час у парламенце была створана спецыяльная група для апрацоўкі рэабілітацыйнай працэдуры; пазней яе працы былі спынены. Зараз усе заяўкі на рэабілітацыю беларускімі дзяржаўнымі органамі не прымаюцца. Самое прабыванне на акупаваных тэрыторыях мае абвінавачвы аспект.



http://mahilou.org

***— Чаму Аляксандр Лукашэнка не хоча ўзнімання гэтай праблематыкі, дзеянняў у гэтай сферы?***

— Тут не трэба шукаць нейкай логікі. Яе папросту няма. Навошта займацца злачынствамі, напрыклад 1930-х гадоў, калі ён не мае да іх ніякага дачынення. Тое самае датычыць людзей з ягонага атачэння; няма інфармацыі, што, для прыкладу, нехта з ягоных людзей працаваў у НКВД. Баіцца ветэранаў Другой сусветнай вайны, усё жывучай іх настальгіі. Хаця іх штораз менш, але ўсё ж такі яны ёсць. Магчыма, што за шэсць-сем гадоў, калі яны ўсе адыдуць, Лукашэнка ўзніме гэтую тэматыку. Усё ж такі ў гэтай галіне страцілі мы гады. За гады праўлення Лукашэнкі нічога не было зроблена і не была выканана пастанова Савета Міністраў з 1989 года, згодна якой павінны быць ушанаваны ахвяры рэпрэсій, у тым ліку ў Курапатах меў паўстаць помнік і мелі з’явіцца падручнікі датычныя гэтай тэматыкі. Да ўсяго гэтага: кожная дзейнасць у карысць высвятлення праблематыкі рэпрэсій выклікае пераслед з боку ўлад. Вось мяне ў студзені выклікала КДБ і дапытвала, навошта гавару пра рэпрэсіі сталінскага перыяду, у тым і пра катынскі загавор. Гэта было ў студзені, а ў самой Расіі гавораць пра гэта больш дзесяці гадоў. І пра што тут гаварыць, да таго ж у эпоху інтэрнэту. З таго, што на гэтую тэму з’явіўся нейкі артыкул, на канферэнцыях у Польшчы ці Літве нехта гаворыць пра гэта — у Беларусі нічога не змяняецца.

***— Хто канкрэтна нясе адказнасць за рэпрэсіі таго часу, па-за Лаўрэнціем Цанавам, пра якога Вы згадвалі ў Беластоку, як пра галоўнага палача таго часу ў Беларусі?***

— Дзяржава і ўлада.

***— А больш канкрэтна...***

— Я мяркую, што гэтаксама адказныя тыя, якія рыхтавалі спіскі ахвяр, якія іх складалі, тыя што расстрэльвалі, дэпартавалі, пільнавалі ў лагерах і турмах, якія не рэабілітавалі. Усіх прозвішчаў, вядома, не ведаем. Аднак ведаем каля 20% прозвішчаў адказных супрацоўнікаў НКВД. У Беларусі з ніводным супрацоўнікам НКВД, МУС і КДБ няма магчымасці кантакту каб пагаварыць пра тыя справы. Яны ахоўваюцца ад усіх „прасвятленняў” звонку. У нас ніякай люстрацыі няма і не будзе. У выніку працаўнікі ўнутраных служб ведаюць, што калі нехта з іх запляміцца крывёй, ніколі не будзе прыцягнуты да адказнасці: ні юрыдычнай, ні маральнай. Сілавыя структуры сёння ўпэўненыя, што калі прымяняюць сілу, дык таксама новая ўлада сцвердзіць, што абставіны да таго прымушалі, што трэба было зарабляць, утрымоўваць сем’і. Я ўпэўнены, што кожны павінен несці адказнасць за свае дзеянні. Найважнейшае тое, што адказнасці не панесла тая сістэма. Адказнасць павінна быць запатрабавана зверху ўніз. У Беларусі таго не было, па-за мясцовымі эпізодамі.

***— Якая ў Беларусі свядомасць супрацоўніцтва Арміі Краёвай з беларускімі партызанамі?***

— У Беларусі пра Армію Краёву гаворыцца выключна як пра нацыяналістычную, падпольную, антысавецкую арганізацыю. Былі выпадкі супрацоўніцтва беларускіх партызанаў з АК, для прыкладу на Гродзеншчыне, але ў Беларусі пра гэта замоўчваецца. Маўчанне ў гэтай і падобных справах вынікае з дзяржаўнай тактыкі. Пазіцыя Польшчы іншая, згадваецца пра супольныя дзеянні нашых партызан супраць фашыстаў. Тут, аднак, праўда, у прынцыпе, пасярэдзіне. Нельга закрываць вачэй і на негатыўныя здарэнні.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

---

# 67-я гадавіна Дня перамогі

9 мая, традыцыйна з нагоды Дня перамогі, на беластоцкіх гарадскіх могілках адбылася ўрачыстасць увекавечваючая ахвяры Другой сусветнай вайны. Па завядзёнцы прайшла яна дзень пасля такога ж святкавання перад помнікам Героям Беластоцкай зямлі. Сёлета на ўрачыстасці на камунальных могілках не паявіліся ветэраны з Беларусі. Затое, як штогод, шматлюдна прыбылі ветэраны і іх сем’і з Беластока і рэгіёна. Гэтак жа як і раней арганізатарам мерапрыемства было Генконсульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. Былі ўскладзены вянкі ад імя гарадскіх і ваяводскіх улад ды ветэранскіх арганізацый. Маліліся за памерлых прадстаўнікі праваслаўнай, каталіцкай і мусульманскай канфесій. Маладыя людзі прычаплялі прыбылым двухколерныя стужкі — сімвалы памяці пра ахвяры апошняй вайны. Ян Панасюк, 86-гадовы дзеяч Згуртавання пакрыўджаных Трэцім Рэйхам, зараз жыхар Беластока, гаварыў „Ніве”:

— Паходжу з Сакольскага павета. Заўсёды сюды прыходжу з нагоды гэтага свята. Адзін з маіх братоў быў прызваны ў Савецкую Армію. Меў два медалі ад Сталіна і падзяку за ўдзел у вызваленні Гданьска. Быў даваенным камуністам. У 1946 годзе ўцёк у Гродна перад польскімі партызанамі. Хацеў далей, да цесця, у Маскву, але не ўдалося. Памёр у Гродне ў 1953 годзе. Я быў тры гады на прымусовых работах у Германіі.

Консул РБ у Беластоку Аляксандр Берабеня падкрэсліў, што спачываючыя на беластоцкіх могілках салдаты Чырвонай Арміі (розных нацыянальнасцей і канфесій) „аддалі найдаражэйшае ім — сваё жыццё”:

— Гэтая, прысутная ў нашых сэрцах памяць, будзе ў іх заўсёды. Памяць пра тых афіцэраў, салдат і простых людзей, якія пацярпелі ў выніку вайны. Сёння святкуем і ганарымся тою перамогай, але таксама выказваем свой боль і сум па тых, якія не дажылі светлага дня перамогі, якія сваёй крывёй заплацілі за ўсходнія землі і тут, польскія.

Перад супольнай малітвай праваслаўны капелан а. Ігар Сегень успамінаў:

— 67 гадоў гэта многа. Дзякуй Богу, што я і маё пакаленне не помнім тых трагічных, жудасных часоў. Зямля, на якой мы жывём, спакойная, але так не ўсюды ў свеце. У ходзе мінулай вайны дзесяткі мільёнаў людзей розных нацыянальнасцей склалі найбольшыя ахвяры, ахвяравалі жыццём дзеля перамогі над ворагам чалавецтва, у тым і над злой фашысцкай сістэмай. Мы абавязаны захоўваць памяць пра тых, якія тады адышлі, а перш за ўсё маліцца за іх.

На ўрачыстасці прысутнічала м.інш. дэлегацыя беларускай Пагранаховы з некалькіх асоб. Адзін са службоўцаў сказаў нам:

— У нас па сутнасці няма ніводнага месца, дзе не было б помніка прысвечанага тым, што вызвалялі Беларусь. У нашай краіне агромную ролю адводзім зберажэнню памяці пра загінуўшых у час Айчыннай вайны. Пра гэта ствараюцца фільмы, гавораць на мерапрыемствах з удзелам моладзі і іншых калектываў. Паводле мяне, калі жыве памяць, тады яна не дазволіць забыць пра тых, што ў той вайне аддалі найдаражэйшае — сваё жыццё. **(М.Х.)**

# „Бацькаўшчына” заклікае абараніць гонар і годнасць беларусаў Прыбайкалля

Управа МГА Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” выказвае вялікую занепакоенасць з нагоды крымінальнага праследу Маладзёвага клуба „Крывічы” пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага і яго старшыні — Алега Рудакова і звяртаецца па дапамогу ў адстойванні яго гонару і годнасці да беларусаў свету.

Як стала вядома, Следчае ўпраўленне Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці з падтрымкай СОБРА і Спецназа 12 красавіка каля 8.20 уварваліся ў масках і з аўтаматамі ў кватэру старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібу Таварыства.

Па інфармацыі Алега Рудакова, супрацоўнікамі праваахоўных органаў у яго на кватэры былі канфіскаваны 2 камп'ютары, ноўтбук і некаторыя кнігі, у тым ліку „Кто есть кто в Великой Отечественной войне” на рускай мове. На сядзібе ІТБК былі канфіскаваны: кніга „Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі”, пяць каляндарыкаў з выявамі вайскоўцаў БНР і БКА, а таксама невядома кім пакінутая кніжачка па саенталогіі і тры нумары газеты „Наследие предков” за 2004 год.

Алегу Рудакову прад'явілі Пастанаўленне аб вобшуку, дзе было сказана, што заведзена крымінальная справа, у якой ён фігуруе як лідар „экстрэмісцкай групіроўкі Моладзевы клуб «Крывічы»”. Ксеракопію з Пастанаўлення зняць не дазволілі. „У Пастанаўленні аб вобшуку напісана, што я з'яўляюся духоўным лідарам гэтай групоўкі, што я „выбудаваў жорсткую іерархію і беспярэчнае падпарадкаванне мне, як лідару”, што я выкладаю баявыя




віды барацьбы і забараняю ў межах групоўкі размаўляць на рускай мове і шмат чаго яшчэ, што, безумоўна, лухта”, — паведаміў Алег Рудакоў.

Такія неадэкватныя дзеянні былі выкліканыя тым, што праваахоўныя органы Іркуцка завялі крымінальную справу аб экстрэмізме супраць беларуса Аляксея Кухты, актывіста моладзевага клуба „Крывічы”, створанага пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры. Аляксею Кухту выставілі абвінавачанне паводле артыкула „Узбуджэнне нянавісці альбо варожасці, а таксама знявага чалавечай годнасці”. Па інфармацыі Алега Рудакова, Аляксей Кухта размясціў на сваёй асабістай старонцы ў сацыяльнай сетцы „ВКонтакте” прафашысцкія і антысеміцкія выказванні і фотаздымкі. Таксама ён з'яўляецца мадэратарам старонкі моладзевага клуба „Крывічы” „ВКонтакте”. Там ён размясціў фільм „Беларускі рэзістанс” і фота дзеячаў БКА. Ён зрабіў гэта па ўласнай ініцыятыве, не папярэдзіўшы пра гэта Алега Рудакова. На думку апошняга, выглядае на тое, што Следчы камітэт і Аддзел па экстрэмізму вырашылі выслужыцца.

У сувязі з гэтай крымінальнай справай былі праведзеныператрусы ў кватэры старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібе Таварыства.

Спроба прыцягнуць Алега Рудакова да крымінальнай адказнасці як лідара „экстрэмісцкай групіроўкі Моладзевы клуб «Крывічы»” выглядае абсалютна неабгрунтаванай і нават абсурднай. Ужо больш за 15 год Алег Рудакоў нястомна працуе на ніве папулярызацыі беларускай культуры ў Прыбайкаллі. Яго імя добра вядомае беларусам ва ўсім свеце. Мерапрыемствы, якія праводзяцца ІТБК і маладзёвым клубам „Крывічы” з'яўляюцца адкрытымі. На іх прысутнічаюць людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, прадстаўнікі органаў улады і СМІ. Відэарэпартажы пра дзейнасць Таварыства рэгулярна паказваюць па мясцовых тэлеканалах.

Алег Рудакоў узнагароджаны шматлікімі ганаровымі граматамі, у тым ліку Ганаровай граматай Губернатара Іркуцкай вобласці. Ён з'яўляецца сябрам Кансультатыўнага Савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. У красавіку 2010 года Указам № 195 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусі за асабісты ўклад у захаванне традыцый беларускай культуры Алег Рудакоў быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” абуранае дзеяннямі Следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці, якія нават пры наяўнасці падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да сп. Кухты, не мелі ні падставаў, ні маральнага права сваімі дзеяннямі наносіць урон рэпутацыі Алегу Рудакову і Іркуцкаму таварыству беларускай культуры.

Управа Міжнароднага грамадскага аб'яднання Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына” заяўляе што, Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і створаны пры ІТБК моладзевы клуб „Крывічы” займаюцца выключна культурніцкай дзейнасцю, у прыватнасці дзейнасцю па адраджэнні і папулярызацыі духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа ў Прыбайкаллі, распаўсюджванні і падтрымцы беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы. Згуртаванне „Бацькаўшчына” шчыльна супрацоўнічае з ІТБК ад моманту стварэння Таварыства ў 1996 годзе. Кіраўніцтва „Бацькаўшчыны” добра ведае асабіста Алега Рудакова і многіх актывістаў ІТБК.

Управа Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” заклікае грамадскасць Беларусі, арганізацыі беларускай дыяспары па ўсім свеце абараніць гонар і годнасць Іркуцкага таварыства беларускай культуры і яе кіраўніка Алега Рудакова і складаць адпаведныя звароты ў амбасаду Расіі ў Беларусі і наўпрост у Пракуратуру Іркуцка.

**Управа МГА „ЗБС „Бацькаўшчына”**
17.04.2012 г.

Амбасада Расіі ў Беларусі:
220053 г. Мінск, вул. Нававіленская, 1А
Тэл: (+375-17) 233-35-90
Факс: (+375-17) 233-35-97
e-mail: rusemb-minsk@yandex.ru
Прокуратура Кировского района г. Иркутска:
664011, г. Иркутск, ул. Володарского, 5.
тел.(3952) 25-90-49. тел/факс (3952) 25-30-07
e-mail: proc5@irmail.ru

Літаратурна-мастацкае і публіцыстычнае выданне

# дзеяслоў

Сёння, калі друкаванага беларускага слова значна паменела, нават у параўнанні з савецкімі часамі, існаванне літаратурных беларускамоўных часопісаў гэта адна з дзейсных спроб захаваць беларушчыну ад поўнага знікнення. Адным з такіх астраўкоў сакавітага беларускага слова з'яўляецца часопіс „Дзеяслоў”. Адметна, што аднайменная часціна мовы, якая атаясамляецца з жывым словам, у даным выпадку падаецца словам-назвай, якое дзейнічае.

Сайт літаратурнага часопіса месціцца ў інтэрнэце па адрасе **www.dziejaslou.by.** Выгляд сайта даволі просты, хоць і не зусім звыклы. Так, галоўная старонка падзелена на дзве часткі, першая левая насамрэч з'яўляецца архівам нумароў, і архіў гэты поўны. Ён змяшчае ўсе нумары „Дзеяслова”, якія адкрываюцца ў шырэйшай правай частцы выяўлення. Праўда, у першым нумары чамусьці не пазначана дата, і для таго, каб даведацца, калі ж часопіс з'явіўся на свет, трэба зазірнуць у наступныя нумары.

У кароткім пераказе зместу, які па-англійску падаецца ў другім нумары „Дзеяслова”, распавядаецца, што часопіс пачаў выходзіць у верасні 2002 года. „Ён выдаваўся як альтэрнатыўны часопіс тым часопісам, што незаконна былі адабраныя ад беларускіх літаратараў беларускімі ўладамі”, — распавядаецца ў „Summary”. Нагадаем, што ў той час некалькі самастойна існаваўшых беларускамоўных часопісаў „Полымя”, „Нёман”, „Маладосць”, „Крыніца”, тыднёвік „Літаратура і мастацтва” былі аб'яднаны ў адзіны холдынг, што выклікала незадавальненне і звальненне з іх значнай часткі пісьменнікаў.

Больш поўны распавед пра „Дзеяслоў” знойдзем на старонцы «Слова ад „Дзеяслова”». „Сёньня беларускіх літаратараў хочуць падзяліць на „сваіх” і „чужых”. „Дзеяслоў” супраць усялякіх падзелаў. „Дзеяслоў” — выданьне адкрытае для ўсіх. У гэтым можна пераканацца па першым выпуску. Усё вартае: таленавітае, адметнае, шчырае, сьмелае — будзе друкавацца на старонках выданьня. „Дзеяслоў” пастараецца не расчараваць ні сваіх сяброў, ні сваіх ворагаў. Крытэрыем для „Дзеяслова” будзе найперш літаратурная вартасьць і якасьць твору, а не палітычная заангажаванасьць. „Дзеяслову” імпануе адзіны неаспрэчны прынцып — служэньне на карысьць роднай Беларусі”, — так акрэслівае сваю пазіцыю рэдакцыя часопіса. На той жа старонцы маем магчымасць пазнаёміцца з яе складам. Згодна пададзенай інфармацыі рэдакцыя невялікая — усяго толькі чатыры асобы, якіх узначальвае галоўны рэдактар Барыс Сачанка.

Рубрыка „Сьвежы нумар” дазваляе нам пазнаёміцца з загалоўкамі нумара, які ўжо надрукаваны ў папяровым варыянце. Калі надыдзе час наступнага выдання, то змест папярэдняга стане даступны і на сайце часопіса. Даведацца ж аб тым, што запланавала друкаваць рэдакцыя ў бліжэйшым нумары, магчыма ў рубрыцы „Анонс”.

На старонцы „Нашы аўтары” можна пабачыць вялікі пералік тых, чые творы публікаваліся ў „Дзеяслове”. Прычым кожнае прозвішча з'яўляецца гіперспасылкай, якая вядзе да кароткай біяграфічнай заметкі пра выбранага аўтара.

А вось рубрыка „Навіны” мала адпавядае сваёй назве — апошняя навіна там ад сакавіка, і гэта ўсяго галасаванка за лепшага літаратара 2011 года.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Скарбы Беларусі

### Станькава графа Чапскага

У вёску Станькава сучаснага Дзяржынскага раёна, які яшчэ называюць Койданаўскім, давялося мне патрапіць па грамадскіх справах улетку 2009 года. Планаваўся моладзевы міжнародны валанцёрскі летнік і мы шукалі месца для яго правядзення. Галоўнай мэтай гэтага летніка была пабудова забаўляльнай пляцоўкі ў адным з дзіцячых дамоў. Ідэя чыстая аж да крышталёвасці, але паколькі праект быў складзены недзяржаўнымі арганізацыямі, гарадзенскія чыноўнікі ад дабрачыннай прапановы адмовіліся (як раней казалі — „у советских собственная гордость”). У пошуках падыходнага месца мы і выправіліся ў іншы рэгіён і ўрэшце выбар паў на дзіцячы інтэрнат, што размешчаны на тэрыторыі колішняй сядзібы роду Чапскіх у Станькаве.

Адміністрацыя ўстановы вельмі зацікавілася прапанованай летніка і знаёміла нас з пабудовамі і асаблівасцямі тэрыторыі. У адным з навучальных класаў запомнілася галерэя дзіцячых малюнкаў пад агульным тытулам „Наше творчество”, у цэнтры якой размяшчаўся партрэт „усенароднаабранага”.

Вёска Станькава, альбо Станькаў размешчана на рацэ Рапуса зусім недалёка ад Койданава. Да знакамітай чыгуначнай станцыі, якая ў васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя была ўслаўлена рок-гуртом „Бонда” — 8 кіламетраў. Але дабірацца да Станькава працей аўтамабілем непасрэдна з Мінска, альбо з гарадзенскай шашы, якая вядзе да сталіцы, у кожным разе можна і заблукаць.

Станькаў досыць старажытнае мястэчка Міншчыны. Першы ўспамін пра яго, як пра валоданне Дарагастайскіх, датуецца 1407 годам. Пазней мясціна была ва ўласнасці Радзівілаў, а з 1772 года яна перайшла да роду Чапскіх. Росквіт Станькава прыпаў на час гаспадарання графа Эмэрыка Чапскага, ураджэнца гэтай мясціны, знакамітага калекцыянера і дзяржаўнага дзеяча. Ён атрымаў добрую адукацыю, скончыўшы спярша Віленскую гімназію, а пасля Маскоўскі ўніверсітэт. Займаў у Расейскай імперыі досыць высокія пасады, а значыць някепска і зарабляў. У сваім маёнтку ён жыў у 1879-1894 гадах, заснаваў тут музей з вялікімі калекцыямі нумізматыкі, іканаграфіі, мастацкіх карцін, гравюр. Толькі бібліятэка налічвала каля 20 тысяч тамоў, сярод якіх былі вельмі ўнікальныя выданні. У канцы XIX стагоддзя значная частка збораў і багаццяў была перавезена ў Кракаў. У гэтым жа горадзе, на Ракавіцкіх могілках, знайшоў апошні спачын і сам граф.

На тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу ў Станькаве сам палац не збярогся. Як ён выглядаў можна ўбачыць на малюнку Напалеона Орды. Захавалася збудаванне арыгінальнай архітэктурнай канструкцыі — гэта так званы „Скарбчык”. Можна ўбачыць таксама рэшткі брамы, старую альтанку, царкву.

А яшчэ Станькава — гэта радзіма піянера-героя Марата Казея, імя якога добра было вядомае кожнаму навучэнцу беларускай савецкай школы. Казей, апынуўшыся ў атачэнні фашыстаў, падарваў сябе гранатай, знішчыўшы і некалькі немцаў. Раней гэта ўспрымалася як геройства, зараз — як вялікая трагедыя і амаральнасць савецкай партызанкі — як можна 14-гадовых падлеткаў адпраўляць на вайсковыя аперацыі! Зараз у Станькаве адпаведны мемарыял, імя Казея носіць і мясцовая школа.

Будавацца дзіцячую пляцоўку на тэрыторыі Станькаўскага інтэрната чыноўнікі так і не дазволілі, ад ідэі давялося адмовіцца. І вельмі шкода, што станькаўскія дзеці не атрымалі цікавага пляца забаваў. Пры Чапскім такога напэўна не здарылася б...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Уладзімір СІДАРУК

# Разважанні пенсіянераў

Чалавек, дажываючы старасці, задумваецца якое завяшчанне пакіне па сабе патомным? Каб адказаць на гэтае пытанне варта задумацца над іншым, якія былі мы людзі. Ці захаваецца пра нас памяць у грамадскай супольнасці, дзе мы пражывалі? Народная мудрасць гаворыць, што чалавек датуль будзе жыць, пакуль у народзе захаваецца памяць пра яго. Вось што пра гэта піша Анатоль Маўчун з Познані, мой сардэчны прыяцель, з якім ад некалькіх год ладжу перапіску (лічу, што паважаны сябра не пакрыўдзіцца за тое, што пакарыстаюся цытатамі з ягонага ліста). А піша так: „Я, пакуль жылі людзі, якіх лёс быў звязаны з гісторыяй Беларусі (Тарчэўскі, Лашук, Танк, Брыль і іншыя) і да таго пакуль сам працаваў, шмат што мне ўдавалася здзейсніць. Цяпер — пенсія невялікая, дзеці беспрацоўныя, ну і старасць... Словам, нецікава. Але пакуль у жывых, нешта ж рабіць трэба — хоць і не лёгка". І далей: „Найбольш хвалюе мяне палітыка Лукашэнкі. Ён — быццам камуніст! У 39-тым, калі к нам прыйшлі саветы, хутары пачалі зваць кулакамі — бо бедныя вёскі пайсці на хутары не змаглі. У камунізме ўсе мелі быць роўнымі. Ну і што? Бедната ў Расіі як была, так і засталася, а вось камуністычныя кіраўнікі сталі багацейшымі за амерыканскіх капіталістаў. Лукашэнка знішчае беларускія школы і амаль усю маёмасць дзяржавы Расіі прадае... Я за мінулы год не атрымаў аніводнага адказу адтуль на мае пісьмы... Значыць, людзі не адвыклі там усяго баяцца... Вяртаючы да ваеннага часу — калі прыйшлі саветы дык адразу заняліся прыватнікамі і асаднікамі — цэлыя эшалоны іх адпраўлялі на ўсход. Калі прыйшлі немцы — яны былі хітрыя — на ўстановах, як да вайны, палякаў пакінулі. Затое адразу ўзяліся за жыдоў і савецкіх служачых (савецкіх палонных гаспадарам на працу аддавалі). Вядома, пазней з іх партызаны парабіліся... (толькі большасць „партызанаў" — каб пражыць — грабяжом займаліся). (...) А на службе ў немцаў (у арміі) бадай палавіна Еўропы была: рускія, украінцы, латышы, італьянцы... Успамінаць ёсць што, толькі горкія тыя ўспаміны. Помню, калі саветы вярнуліся, дык бабы з Нямеччыны кароў гналі, табуны сотнямі штук — тады з Нямеччыны прыйшла мода жанчынам хадзіць у штанах (а спадніца наверх...). Успамінаць пра многае варта было б, ды і вывад з пражытага сур'ёзны зрабіць. Толькі павінны б усе сумленна рабіць. Але... кожны жыць хоча па-свойму (найбагацей за чужы кошт...)."

Пагаджаюся з думкамі спадара Маўчуна. Ёсць пра што ўспамінаць. Асабліва чалавеку пажылога ўзросту. Час бяжыць непрыкметна. І мінулага не вернеш. Затым варта пісаць гісторыю, якой мы былі сведкамі. Прыкмячаю гэта з „уласнага панадворка", калі гартаю старонкі дамашняй хронікі, ці змешчаныя ў „Ніве" свае допісы. Шмат гэтага накапілася. Сотні, тысяч некалькі... Кароценькія інфармацыі, большыя допісы... Затым фельетоны, успаміны старажылаў. Многіх суразмоўцаў няма ўжо ў жывых. Адышлі ў вечны спачын. Але памяць пра іх засталася. І датуль будуць жыць, пакуль пра іх будзем успамінаць. Затым свой летапіс пакідаю як завяшчанне патомным жыхарам (ды не толькі) Чаромхаўскай гміны.

# Яшчэ аб адным перапісе

Сёлета мінае роўна 300 гадоў з моманту аднаго перапісу ў Расіі, які загадаў правесці цар Пётр Вялікі. Перапіс датычыў „распаўсюджаных звыш усякай меры" чыноўнікаў шматлікіх канцылярый. Цар быў разумным чалавекам, разумеў патрэбу існавання ў дзяржаве чыноўніцкай касты, але таксама бачыў з'яву бясконцага росту бюракратычных пасад. Спрабаваў ён трохі ачысціць Расію ад гэтых паразітаў. Прыдатных да ваеннай службы загадаў браць у салдаты: хай тым чынам паслужаць айчыне!

Якая ж гэта разумная і прыгожая ініцыятыва! Аднаго толькі не прадбачыў асвечаны цар: такую аперацыю трэба паўтараць час ад часу, так як праполку пустазелля ў агародзе.

Сёння, на жаль, няма разумных цароў. Сёння мы кіруемся самі, бо нас пераканалі, што мы знатакі ў гэтай галіне і таксама можам рашаць агульнаграмадскія справы. А вынікі відавочныя. Так вось, чыноўнікі, загадчыкі, дырэктары і міністры, спіце спакойна: волас з вашых пустых галоў не ўпадзе!

**М. Ц.**

# Геркаўскія помнікі

*Двор вялікі стаяў. У двары тым жыў пан*
*Нейкі з дочкай прыгожай, Галінай.*

**Канстанцыя Буйло, «Курган»**

Маёнтак Геранівова распаложаны ў 6 кіламетрах на паўднёвы захад ад Міхалова. Пры санацыі быў гэта багаты маёнтак. Ягоная зямля размяшчалася паміж вёскамі Гозьна, Патока, Тапаляны, Масціскі, Казімірова, Новая Воля, Такароўшчына і Цісы. Былі тут прыгожы палац ды гаспадарчыя будынкі. Палац спалілі нямецкія захопнікі падчас Другой сусветнай вайны з-за таго, што там хавалася польская партызанка. Пасля вайны ўладальнік маёнтка кудысьці з'ехаў. Лес забрала дзяржава і перадала ў карыстанне Надлясніцтву Жэдня. На ворнай зямлі і сенажаці быў заснаваны саўгас. Пабудавалі аборы для малочных кароў і маладняку, гадавалі гусей. Узведзены былі таксама жыллёвыя будынкі для рабочых. Прыбіраліся аднавіць палац, расчысцілі ўвесь друз, але адбудова не атрымалася. Руіны палаца стаяць надалей.

У апошнія гады ПНР у Геранімове пабудавалі два чатырохпавярховыя жылыя блёкі, каб рабочым забяспечыць гарадскі стандарт жыцця. Але цяпер яны, без акон і дзвярэй, нішчэюць. Дзветвара ладзіць у іх свае гульні. Апошнім часам хтосьць абгарадзіў іх, каб дзецям не было доступу, бо на няшчасце многа не трэба.

Справай блёкаў павінен заняцца самаўрад горада Міхалова. Можна было б пераняць пустуючыя будынкі, адрамантаваць і адкрыць у іх дом спакойнай старасці. А калі б каля Тапалян будавалі лётнішча, то прыдаліся б яны для персаналу аэрадрома. Варта, каб улады Міхалова сур'ёзна задумаліся над гэтай справай.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — сербскую пагаворку.

1. травяністая ароідная расліна з паўзучым карэнішчам (*Acorus calamus*) = 23 _ 34 _ 10 _;
2. хімічны элемент N = 11 _ 12 _ 3 _ 2 _;
3. выгук, якім публіка просіць артыста выканаць паўторна толькі што выкананы ім нумар праграмы = 22 _ 14 _ 13 _;
4. вонкавае прыкрыццё рота (адз. лік) = 37 _ 40 _ 33 _ 32 _;
5. Ігнацій Лаёла = 4 _ 20 _ 16 _ 25 _ 17 _;
6. круг у... школе = 26 _ 18 _ 15 _ 36 _;
7. лісцевае дрэва, сімвал падробкі, няякаснасці = 39 _ 38 _ 28 _ 29 _;
8. двухкрылае насякомае ў... Сёмусе = 24 _ 21 _ 1 _ 27 _.
9. польскі парламент = 31 _ 30 _ 19 _ 35 _;
10. бацька жонкі = 8 _ 9 _ 5 _ 6 _ 7 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 |
| | | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | 31 | 32 | 33 | 34 |
| 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Звон, чай, ёга, ледзянец, шынель, зяць, чума, ёд, вадаём, Валапас, Ева, Іж, шып.

Рашэнне: **Свой дзёгаць лепшы за чужы мёд**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Сцяпану Гаворку** з Кашалёў.

# 20.05 — 26.05

**(22.03. — 20.04.)** Да 24.05. маеш нагоды для неблагога заробку. Вельмі актыўная дзейнасць, але і немалая стома ад гэтага. У сярэдзіне тыдня можаш узяць на сябе лішне многа. Пад канец тыдня пакажаш свой уладны характар і пакіруеш іншымі.

**(21.04. — 21.05.)** Да 24.05. людзі будуць аказваць табе вялікую сімпатыю. Дзякуючы адпаведным кантактам, крышынцы шчасця і дапамозе ўплывовых асоб маеш гарантаваны поспех. Маладзік Месяца (21.05.) можа заахвоціць цябе да катастрафічных у выніку рашэнняў. Мілыя хвіліны ў жыцці ў пары.

**(22.05. — 22.06.)** Хопіць энергіі і выдатнага настрою, і поўня красы. 21 мая найбольш прэтэнзій будзеш мець да сябе самога. Тыдзень добры для сямейных спраў, умацавання сувязей, планавання будучыні, дагавораў. У другой палове тыдня мусіш пастарацца, каб не ўпусціць шанцаў палепшыць сваё жыццёвае становішча. Поўня сілы — сярэдзіна тыдня.

**(23.06. — 23.07.)** У час маладзіка Месяца (21.05.) пастарайся як найбольш адпачываць. Не ангажуйся ў справы, якія цябе не датычаць. Будзь асцярожны і пільны ў пачатку тыдня, бо цікуюць зайздроснікі і нядобразычліўцы. Адстаіш сваё, быўшы ўпэўнены ў сваёй рацыі. У сярэдзіне тыдня вырашай цяжкія фінансавыя справы. І не рабі нікому брыды!

**(24.07. — 23.08.)** Ільвы народжаныя ў ліпені без цяжкасцей дасягнуць сваіх мэт, а ўплывовыя людзі палегчаць ім кар'еру. На працу ці ў школу едзь на ровары. Ды 21-25.05. паслабіцца тваё здароўе; могуць прытрапіцца паскудная інфекцыя, але і аграмадная хандра. У канцы тыдня разлічы грошы і заплануй свой бюджэт.

**(24.08. — 23.09.)** Разберыся ў думках і пачуццях, прагах і марах. Пасярэдзіне тыдня міне хандра. Паставіш канкрэтныя мэты перад сабой і ўпэўнена пойдзеш уперад. Пад канец тыдня пакажаш свой творчы патэнцыял.

**(24.09. — 23.10.)** 20-24.05. пачнеш працаваць на свае будучыя поспехі, атрымаеш вялікую падтрымку людзей. З 20.05. маеш вялікі прыліў жыццёвых сіл. Хоць да 22.05. можа прытрапіцца табе расчараванне. 20-21.05. не вырашай важнага і не бяры пазык. На працы будзь вельмі асцярожны 21-24 мая; не дапамагай невядома каму. Шалі народжаныя 15-19.10. могуць панаракаць на старыя захворванні — дэталёва няхай абследуюць вас лекары.

**(24.10. — 22.11.)** З 20.05. палепшыцца твой настрой. Еж кашу, зерне, цёмныя макароны, час ад часу глытні чырвонага віна. Не ігнаруй парад, а ў складаных сітуацыях не спадзявайся толькі на сябе аднаго. Не плануй нічога важнага на канец тыдня, адпачывай.

**(23.11. — 22.12.)** 20-24.05. пашчасціцца табе ў фінансах, вынегацыеш карысную дамову. Дакладна абдумвай кожны грош; пачні дзейнічаць у апошнюю дэкаду мая (з 22.05.). Паможа табе вырашыць асабістую і службовую справу блізкі табе чалавек, сябра ці калега, з якім маеш добрыя адносіны.

**(23.12. — 20.01.)** 20-22.05. не вызначай сабе мэт, якіх ты не ў змозе дасягнуць. Пасля 20.05. расцягвай свае мышцы. Добры час для адпачынку. Ніхто цябе не будзе турбаваць, расслабся, адпачні, забудзь пра ўсе справы. Праўда, пад канец тыдня абвострыцца ў цябе пачуццё... хітрасці, але лепш устрымайся ад не зусім сумленных метадаў палепшыць сваё становішча.

**(21.01. — 19.02.)** Спачатку прыйдзецца наведаць розныя інстанцыі для вырашэння спрэчных пытанняў. Можаш мець праблему ўтрымаць сябе ў руках, так цябе яны дастануць. Агульна ты на эмацыянальным пад'ёме, але прыкрыя адносіны да цябе могуць выклікаць буру негатыўных эмоцый. Можа прыйдзецца звярнуцца ў суд ці праваахоўныя органы!

**(20.02. — 21.03.)** З 21 да 27.05. прадбачваюцца праблемы, перад якімі абаронішся; адчуеш, што ўсё залежыць ад цябе самога. Будуць табе ўстаўляць палкі ў калёсы, ды гэта на іхнюю няўдачу! Пасля будзеш вырашаць пытанні асабістага характару; новыя знаёмствы, змены ў адносінах (добрыя для цябе).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Фестываль суправаджалі знакі з неба

**Удзельнікі мерапрыемства цудам называлі знакі з неба, якія 6 мая суправаджалі юр'еўскі абрад на полі Дарафея Фіёніка побач Студзіводаў. Абрад быў галоўнай падзеяй першай часткі IX Міжнароднага Падляшска-Палескага фестывалю „Там по маёвуй росі", які распачаўся дзень раней і будзе доўжыцца ажно да чэрвеня.**

Другі дзень мерапрыемства распачаўся з малітваў у Прачысценскай царкве ў Бельску-Падляшскім, у якіх прынялі ўдзел госці фестывалю з протаіерэем Сяргеем Гардуном са Свята-Духаўскага сабора ў Мінску, вядомым перакладчыкам царкоўнай літаратуры на беларускую мову, м.інш. Свяшчэннага Пісання. Быў гэта асаблівы дзень, бо нядзеля ў велікодны перыяд супала са святкаваннем у гонар святога велікамучаніка Георгія, якое ў нас называецца Юр'ем. Дарафей і Альжбета Фіёнікі разам з сямейнікамі пасля багаслужбы ў царкве здаўна адзначалі гэтае святкаванне на сваім полі, з абрадам каравая, качаннем па збожжы і гасцяваннем на прыродзе. Аднак першы раз юр'еўскі абрад на іх полі распачаўся ад малітваў, якія ўзначальваў праваслаўны святар. На гэты раз героямі абраду побач бяльшчан былі госці з Беларусі — носьбіты народных традыцый з-пад Кобрына і Жабінкі.



Юр'еўскі абрад распачаўся з асвячэння поля протаіерэем Сяргеем Гардуном

Перад самым выхадам са Студзіводаў выпаў невялікі маёвы дождж, зрабіў расу на траве і назва фестывалю не была ўжо пустой. Калі ў іншых частках Бельска-Падляшскага, у напрамку Гайнаўкі і Беластока выпаў лівень і па асфальтавых дарогах плыла ручаямі вада, у Студзіводах амаль не было лужаў. Сабраныя пачалі ісці на поле па расянай траве, але хутка пачало высыхаць жыта, якое пасля абыходзілі ўдзельнікі святкавання нават асабліва не замачыўшыся. Калі госці з Дывіна і Лелікава Кобрынскага раёна пачалі співаць юр'еўскую песню і дайшлі да слоў пра першы веснавы гром, адразу з неба загрымела, а пры канцы абраду над Дарафеевым полем паявіліся тры буслы, якія можна было ўспрыняць як сімвал Святой Тройцы.

— Два буслы жывуць у нас, у Студзіводах, але адкуль узяўся трэці? — спытаўся рытарычна Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах", арганізатар мерапрыемства.

Пасля завяршэння абраду яго ўдзельнікі выказалі здзіўленне з-за незвычайных знакаў.

— Усё тут вельмі ўражвае, і гром, і буслы, і раса на жыце пасля дожджыку. Адно вялікае *чуда*. Спаткаліся тут маленькія і старэйшыя і ўсе адчуваюць сябе вельмі добра, — гаварыла адна з удзельніц абраду.

У падобны спосаб ацаніў тое, што адбылося, Тамаш Суліма са Студзіводскага музея. Паводле яго, святы Юрый напэўна быў з сабранымі і таму такія знакі паявіліся ў час абраду.

Пасля малітваў і асвячэння жыта айцом Сяргеем, сабраныя пачалі абыходзіць поле — Дарафей Фіёнік з караваем у руках, Тамаш Суліма з іконай святога Юрыя Пераможцы, прыбранай прыгожым ручніком, астатнія з песнямі на вуснах. Пазней Дарафей мераў, ці жыта ў вышыню перарасло ўжо каравай, што было прадвесцем добрага ўраджаю.

— Каб дожджык мачыў, жыта добра расло і каб збожжа радзіла, — жадалі сабраныя гаспадарам.

Каб быў добры плён, дзяўчаты павыходзілі замуж, а хлопцы пажаніліся, сабраныя качаліся па збожжы, спасылаючыся на традыцыю з далёкага мінулага. Гаспадары са Студзіводскага музея зрабілі ўсё, як трэба было, аднак юр'еўскі абрад у выкананні гасцей з Беларусі быў намнога багацейшы з-за прымавак, юр'еўскіх песень і спецыяльных цырымоніі, якая завяршылася дзяленнем каравая, што мела даваць асаблівыя сілы сабраным, і частаваннем беларускай самагонкай, якой не было многа, але хапіла, каб спраўдзіць яе смак.

— У цяперашнім юр'еўскім абрадзе няма нічога паганскага, бо маліліся мы да Бога, каб дапамог у гаспадаранні і прасілі заступніцтва ў святога велікамучаніка Георгія, які лічыцца ахоўнікам земляробаў. Само імя Георгій (у нас Юрый) у грэчаскай мове значыць земляроб і таму ў гэтага святога просім, каб збожжа добра расло. Поле абыходзілі мы з малітвай і пачаставаліся караваем, выяўляючы сваю радасць ад святкавання, у час якога павінны быць малітвы і адпачынак, — яшчэ на полі патлумачыў протаіерэй Сяргей Гардун.



Жанчыны з Дывіна ды Анастасія і Пётр Шэпяцюкі з Лелікава (справа) запрэзентавалі асноўную частку юр'еўскага абраду



Поле абыходзілі маладыя і старэйшыя

У юр'еўскім абрадзе прымалі ўдзел усе сабраныя, але ў галоўных яго момантах вельмі ўдала запрэзентаваліся старэйшыя асобы з-пад Кобрына, якія штогод падтрымліваюць гэты абрад на сваіх палях. Гэта былі жанчыны з Дывіна ды Пётр Шэпяцюк і яго жонка Анастасія з Лелікава, якія першы раз прыбылі на студзіводскае мерапрыемства. Чарговы раз прыбылі ў Музей малой айчыны ў Студзіводах калектывы з Хмелева каля Жабінкі. Былі гэта дзіцяча-маладзёжная група „Дараносіца" і „Хмелеўскія валацугі", што вадзілі карагод, спявалі песні і таксама ўдала ўключыліся ў юр'еўскі абрад.

— Цешыць, што і мясцовыя людзі прыйшлі, каб прыняць удзел у юр'еўскім абрадзе, а нават прыехалі жанчыны польскай нацыянальнасці з Варшавы, якія спяваюць нашыя песні, каб паслухаць іх з вуснаў носьбітаў нашага фальклору, — гаварыў узрадаваны Дарафей Фіёнік.

— Для нашых бабулек прыезд на мерапрыемствы ў Студзіводскі музей гэта вялікае шчасце. Тут усё ёсць, каб яны вельмі добра сябе адчувалі. Усё робіцца так проста, а адначасна так геніяльна. Мы многаму тут вучымся і шмат нас тут уражвае. Многія нашыя жанчыны, каб дабрацца сюды на фестываль, першы раз выехалі за мяжу і ўсё іх тут цікавіць. А адносіны да старэйшых людзей Дарафея, чалавека з харызмай, таксама незвычайныя і таму ўдзельнікі нашых калектываў захоплены тут. У нас, на Палессі, успрымаюць Дарафея як чалавека-легенду і як самага дарагога госця, — гаварыла Ларыса Быцко — загадчык аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра, якая каардынуе прыезды самабытных калектываў з Палесся ў Студзіводы.

Першы дзень фестывалю распачаўся ў Студзіводскім музеі з адкрыцця выстаўкі „Традыцыйныя строі Кобрыншчыны", на якой можна ўбачыць даўнюю жаночую і мужчынскую вопратку, ручнікі, паясы, і з выступу этнаграфічнай групы з Дывіна. Пасля адбыўся папулярна-навуковы семінар „Сувязі Кобрыншчыны і Бельшчыны", у час якога чыталіся даклады пра гістарычныя сувязі паміж Кобрынам і Бельскам-Падляшскім і іх землямі.

— У другой палове XIII стагоддзя князь Уладзімір Васількавіч збудаваў Кобрын і заснаваў Прачысценскую царкву ў Бельску. Пачынаючы з гэтага перыяду працягвалася супрацоўніцтва паміж Кобрынскай і Бельскай землямі, — сказаў Дарафей Фіёнік, для якога Кобрыншчына блізкая ў духоўным і гістарычным планах. — Кобрыншчына сёння гэта Палессе, але гістарычна гэта Падляшша, бо ў Падляшскае ваяводства, якое было створана ў 1513 годзе, таксама ўваходзіла Кобрынская зямля. Паміж намі вельмі глыбокія гістарычныя і культурныя сувязі. Культура, мова, традыцыя, усё паміж сабой звязана.

— Супрацоўніцтва паміж Кобрыншчынай і Бельшчынай было ўжо ў часы Кіеўскай Русі, працягвалася ў час існавання Вялікага Княства Літоўскага, у межах Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Калі зараз раздзяляе нас мяжа, супрацоўніцтва паміж нашымі рэгіёнамі працягваецца, хаця б у час цяперашняга фестывалю. Паміж намі існуе духоўнае адзінства, — сказаў протаіерэй Сяргей Гардун, які ўдакладніў, што і сам выводзіцца з-пад Кобрына і туды ахвотна і часта ездзіць на адпачынак.

Незвычайным героем фестывалю быў Пётр Шэпяцюк з Лелікава — народны паэт. Яго паэзія асаблівая на ўсю Беларусь менавіта з-за асаблівага дыялекту Лелікава, які не захаваўся ў ніводнай суседняй вёсцы. Калі Пётр Шэпяцюк у час аўтарскага вечара стаў гаварыць на мове сваёй вёскі, цяжка было яго зразумець, тым болей калі стаў гаварыць хутчэй. Там дзе ў суседніх вёсках у словах вымаўляюць „э", у Лелікаве вымаўляюць „а", напрыклад замест „тэпэр" кажуць „тапар", замест „мэнэ" — „мана", а замест „тэбэ" — „таба".

— Нашу гаворку называем тараканскай і мяркуецца, што прыйшла яна да нас з Прыкарпацця. Я пішу вершы на ёй аба ўсім, але перш за ўсё аб нашым жыцці, аб нашай гісторыі. Яшчэ нашыя саракагодкі добра гавораць на нашай мове, але ўжо малодшыя, а ў гэтым ліку і мае ўнукі, не хочуць вучыцца мясцовай гаворцы, — з сумам сказаў Пётр Шэпяцюк і дадаў, што цікавіцца гісторыяй Беларусі і цяперашнімі яе падзеямі, чытаючы пастаянна часопісы "Наша ніва" і „Народная воля". Выявіў ён задавальненне, што на Бельшчыне так міла праводзіць час, а яго жонка Анастасія Шэпяцюк заўважыла падабенствы паміж абрадамі Бельшчыны і Кобрынскага раёна, якімі не толькі цікавіцца, але пастаянна паказвае іх разам з мужам Пятром на Брэстчыне. Пасля завяршэння юр'еўскага абраду побач Студзіводаў і кароткага адпачынку госці з Беларусі на аўтобусе паехалі ў Гусакі, Арэхвічы і Гацькі, дзе мелі таксама прэзентаваць народны фальклор з-пад Кобрына і Жабінкі. На першы дзень фестывалю „Хмелеўскія валацугі" выступілі ў Дубінах.

Другая частка фестывалю „Там по маёвуй росі", Трэці разьбярскі пленэр „Студзіводы-2012" распачаліся 10 мая і мелі праходзіць у Студзіводскім музеі да 18 мая.

ISSN 0546-1960